*Юбілей у Востраве* → 4



# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714

*Вершы Андрэя Сцепанюка* → 9



http://niva.iig.pl
redakcja@niva.iig.pl

№ 22 (2924) Год LVII | Беласток, 27 мая 2012 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

**Як прыклад жывой крэатыўнасці Фестывалю царкоўнай музыкі прамовіла музычна-рэлігійна-мастацкая падзея. Мова аб прэм'еры твора Рамуальда Твардоўскага: *Воспойте Господеви песнь нову.* Твор польскага кампазітара выканаў знакаміты хор Нацыянальнага цэнтра мастацтва „Preludiu" пад кірункам Воіцу Значэску. Прэм'ера прагучала ў апошні дзень фестывалю на г.зв. гала-канцэрце, калі выступілі найлепшыя з ліку найлепшых выканаўцаў. Румынскія харысты — лаўрэаты першай узнагароды ў катэгорыі прафесійных хароў.**

Тэкст і фота Ганны КАНДРАЦЮК

# Фестываль натхняе




Народная капэла Беларускага нацыянальнага тэхнічнага ўніверсітэта з Мінска

У недагаворанай паэтыцы здарэння адчувалася вялікае прызнанне кампазітару, які ў сціплай сакрэтнасці адзначаў сваё трыццацігоддзе натужлівай працы ў журы фестывалю...

Рамуальд Твардоўскі ўсклаў на сваё плечы яшчэ адну вялікую і непрыкметную для вока місію. Сваім творчым прыкладам і ангажаванасцю ў рост фестывалю адкрыў беластоцка-праваслаўную публіку на царкоўную музыку XXI стагоддзя. Кампазіцыі Твардоўскага нярэдка спалучаюць з мадэрнымі іконамі Ежы Навасельскага. Іх канцэптуальная перспектыва з аскетычнай вобразнасцю і свядомай дысгармоніяй прамаўляе як малітоўны пратэст супраць бяздушнаму вобліку сучаснай культуры. Падобныя з'явы адбываюцца ў цэлым праваслаўным свеце. Найлепшым тут прыкладам творчасць Лесі Дзічко, сучаснай украінскай кампазітаркі, якая ад чатырох гадоў таксама прымае ўдзел у працы журы фестывалю. У час адкрыцця XVIII выпуску фестывалю была запрэзентавана яе мануальная „Літургія" ў выкананні Камернага хору імя Палкіна з Харкава. Такія музычна-духовыя падзеі памятаюцца ўсё жыццё. І асноўнае, гэта натхняе маладых. У час XXXI фестывалю ўразіла выкананне ананімнай малітвы „Святы Божа", напісанай, паводле легенды... анёламі з неба. Гэтую малітву на музыку Лесі Дзічко праспяваў хор Дзяржаўнай гімназі-каледжа мастацтваў імя І.Ахрэмчыка з Мінска з маладзенькай салісткай Воляй Варонай, якая захапіла моцным каларатурным сапрана...

* * *

— Мы вельмі хваляваліся перад выступленнем, — прызнаецца Святлана Машкала з Пружан, — бо тут вельмі высокі ўзровень. Іх царкоўны хор „Амафор" адрадзіўся ў 2002 годзе разам з новай парафіяй у Новых Засімовічах, колішнім ваенным гарадку, што на акраіне Белавежскай пушчы. У хоры спяваюць людзі сярэдняга пакалення і моладзь.

— Пасля бязбожнага атэізму ў нас не атрымаўся натуральны працяг традыцыі, з улікам мясцовых напеваў і асаблівасцей, таму мы пачынаем з пачатку. Старэйшыя людзі не ведаюць царкоўнага абраду, яны просяць у нас дапамогі, калі трэба падрыхтавацца на прыезд іерархаў...

У хоры людзі інтэлігенцкіх прафесій: настаўнікі, працаўнікі дамоў культуры, музеяў, інжынер. Святлана займаецца яшчэ калектывам ветэранаў, таму з цеплынёй прыгадвае гайнаўска-пружанскія сустрэчы пенсіянераў і супольныя праекты са школай у нашай Нараўцы.

— Вашыя дзеці захапілі нашых вучняў прыстойным веданнем беларускай мовы.

Нацыянальнае пытанне, якое заўсёды балюча праяўляецца на фестывалі царкоўнай музыкі (беларускія хары рэдка калі ўключаюць рэпертуар на роднай мове, рэдка калі спяваюць творы айчынных кампазітараў), паказалася важным для спадарыні Святланы і яе мужа Яззэпа, у прыватнасці настаўніка гісторыі ў беларускай школе ў Вялікім Сяле. У час нашай кароткай гутаркі яны распавялі пра змаганне за адукацыю для дзяцей у беларускіх класах.

Прысутнасць беларускіх хароў на фестывалі царкоўнай музыкі мае яшчэ патрыятычна-эмацыйны характар. Гасцей з Рэспублікі Беларусь беластоцкая публіка вітае надзвычай горача і пасля ахвотна каментуе іх выступленне.

— Якая ў іх высокая музычная культура! — захапляецца Міхал Артысевіч, музыкант і аніматар музычнага жыцця на Беласточчыне. Словы прызнання накіраваў ён у бок Народнай капэлы Беларускага нацыянальнага тэхнічнага ўніверсітэта з Мінска пад кірункам Алены Ісайкінай:

— Усё тут было дапрацавана, усе творы заспявалі з памяці, без нот. А ўжо тая кампазіцыя (твор В. Вераб'ёва „Прынясі ты, Божа" — Г. К.), стылізаваная на народны манер, проста *чудесна*.

* * *

У час XXXI Міжнароднага фестывалю царкоўнай музыкі, які праходзіў 15-19 мая г.г., выступілі 22 хары з 13 краін свету. Міжнароднае журы пад кірункам Рамуальда Твардоўскага вылучыла пераможцаў у чатырох катэгорыях. У самай прэстыжнай катэгорыі прафесійных хароў перамаглі згаданыя ў пачатку госці з Румыніі: Хор „Preludiu" з Бухарэста. Першую, раўнапраўную ўзнагароду журы прызначыла таксама Камернаму хору „Воскресіння" з Івана-Франкоўска на Украіне. На другім месцы апынуліся прадстаўнікі Рэспублікі Паўночнай Асеціі-Аланіі: Мужчынскі хор дзяржаўнай філармоніі з Уладзікаўказа. На трэцім: мужчынскі ансамбль „Didgori" з Грузіі. Надзвычай прыгожымі і вытанчанымі ў сёлетнім конкурсе паказаліся ўдзельнікі ў катэгорыі дзіцячых і моладзевых хароў. Апошняя акалічнасць натхняе на будучыню. Першае месца ўзяў Дзіцячы хор „Вяснянка" з Масквы, які захапіў вытанчаным і натхнёным малітоўным выкананнем. Другое месца прысвоена хору Мінскай дзяржаўнай гімназіі-каледжа мастацтваў імя І. Ахрэмчыка (пад кірункам Марыі Ліпніцкай), на трэцім апынуўся Хлапечы хор „Akademia Campanelli" з Кішынёва (Малдова).

У катэгорыі парафіяльных хароў перамог хор Сербскага праваслаўнага спявачага таварыства „Vila" з Прэдара (Сербская Рэспубліка Босніі і Герцагавіны). Другое месца заняў дзіцячы хор Сабора Нараджэння Хрыстова з Кішынёва (Малдова), трэцяе — Царкоўны хор „Благовіст" з Камянца-Падольскага на Украіне і жаночы хор Х Агульнаадукацыйнага ліцэя ў Беластоку.

У катэгорыі самадзейных аматарскіх свецкіх хароў найлепшымі аказаліся хор Віленскага ўніверсітэта „Pro musica" (Літва) і Акадэмічны хор Варшаўскай палітэхнікі, другое месца ўзяў Маладзёжны хор „Brevis" з Мінска (Беларусь), трэція раўназначныя месцы — хор „Daugava" з Латвіі і польскі мужчынскі хор з Выжыска. Адкрыццём і адначасова радзімым акцэнтам сёлетняга фестывалю несумненна быў прыгожы выступ беластоцкіх ліцэістаў.

— У нашай школе працуе ўсходнеславянскі клас, — кажа дырыжорка Анна Альшэўская. — У нас ёсць таксама дзяўчаты, якія спяваюць у царкоўных харах.

Выступленю садзейнічалі доўгая падрыхтоўка і стрэс:

— Гэты фестываль мае настолькі высокі ўзровень, што мы проста баяліся ці не прападзем у адборачных элімінацыях. Карысталіся таксама кансультацыямі дырыжора адной беластоцкай царквы, які поўнасцю адобрыў іх творчы манер і падтрымаў на духу словамі: *Спяваеце як сапраўдны праваслаўны хор...*

Сваю III узнагароду хор Анны Альшэўскай успрыняў з найбольшай радасцю. Іх выступленне прыцягнула многіх сяброў і знаёмых, якія раней з дыстанцыяй прыслухоўваліся царкоўнай музыцы. Асабліва ў час конкурсных выступленняў у зале беластоцкай філармоніі як ніколі сярод публікі было многа маладых, якія пакарысталіся нагодай паўдзельнічаць у адным з самых прыгожых музычна-духовых фестываляў Еўропы!

Для мяне самой духова-музычнай падзеяй на ўсё жыццё застанецца інаўгурацыйны канцэрт, які саставілі шэдэўры мужчынскай царкоўнай харыстыкі. Канцэрт у выкананні Кіеўскай мужчынскай харавой капэлы імя Льва Рэвуцкага пад кірункам братоў Курачоў адлюстраваў музычны подых стагоддзяў і стыляў: ад кіеўска-пячорскіх ірмалагіёнаў, па сучаснае *Алілуя* аўтарства неацэннага Рамуальда Твардоўскага.

9 770546 196000



# Першыя паездкі

*Кіраўнік Расійскай Федэрацыі Уладзімір Пуцін на самым пачатку свайго трэцяга афіцыйнага тэрміну кіравання наведае Казахстан і Беларусь. Не ЗША, не Еўропу і нават не Кітай. Уладзімір Уладзіміравіч хоча выглядаць цалкам паслядоўным начальнікам самай вялікай па тэрыторыі краіны, і калі ўжо агучыў на сваёй інаўгурацыі, што прыярытэтамі ў знешняй палітыцы будуць менавіта краіны СНД, то так і робіць. Ну а найбольш блізкімі і залежнымі ад яго асабістай волі ён лічыць Казахстан і Беларусь — ці то партнёраў, ці то васалаў па агульнай эканамічнай і мытнай прасторы. Менавіта сюды будуць першыя замежныя паездкі новаабранага начальніка Расіі. Таму ім надаюць найбольшую ўвагу і значымасць.*

*Гаворачы карацей, расійскі кіраўнік едзе паўзірацца на сваю „вотчыну", і паказвае дэмакратычным краінам, што яны зарана ў сваёй рыторыцы тэрмін „халодная вайна" сталі выкарыстоўваць у мінулым часе. Заявіўшы пра свой непрыезд на саміт Вялікай васьмёркі, Пуцін нават не стаў падшукваць дыпламатычных слоў для тлумачэння такіх дзеянняў. Ён проста заявіў, што яму няма калі сустракацца з лідарамі сямі найбольш моцных дэмакратычных эканомік свету, бо ён заняты стварэннем новага ўрада. Таму, нібыта, паедзе на саміт былы кіраўнік Расіі, цяперашні прэм'ер-міністр гэтай краіны Дзмітры Мядзведзеў, з якім Пуцін проста памяняўся ўладнымі месцамі.*

*Пра гэтыя замены Пуціна на Мядзведзева і наадварот ужо анекдоты хадзіць сталі. Нібыта Расійская Дума прыняла рашэнне на Чырвонай плошчы ў Маскве, паміж Крамлём і маўзалеем Леніну паставіць яшчэ адзін маўзалей, у якім Уладзімір Пуцін і Дзмітры Мядзведзеў будуць мяняць адзін другога і ляжаць па чарзе. Нехта з гэтых слоў крыва ўсміхаецца, а некаторыя думаюць, што гэта не анекдот а праўда.*

*Але вернемся да выказванняў Пуціна наконт паездкі Мядзведзева, ці калі сказаць больш правільна, то наконт яго, Пуціна, непаездкі на саміт Вялікай васьмёркі. Даволі цынічна сказана пра праблемы з фармаваннем урада. Як не круці, акурат Дзмітры Мядзведзеў і павінен, як прэм'ер-міністр, фармаваць новы ўрад. Ну а ў самога Уладзіміра Пуціна, пакуль ён быў гэтым самым прэм'ер-міністрам, часу на фармаванне будучага ўрада хапала аж занадта. Ды і пасля яго абрання кіраўніком краіны, да моманту інаўгурацыі, не адзін тыдзень прайшоў. Таму паверыць у яго звышзанятасць па кадравым пытанні даволі цяжка. Тым больш, што час на паездкі ў Казахстан і Беларусь усё ж такі знайшоўся.*

*Уявіць жа, што расійскі кіраўнік не можа з'явіцца на саміце ў кампаніі дэмакратычна абраных лідараў з-за прыроднай сарамлівасці таксама не падаецца праўдзівым. Не выглядае ён на сціплага хлопчыка. Наўрад ці засаромеўся Уладзімір Уладзіміравіч перад сваімі дэмакратычнымі калегамі, што на яго інаўгурацыі вуліцы Масквы, па якіх ён ехаў у Крэмль, былі бязлюдныя як пасля халеры, і толькі незлічоная колькасць вайсковай тэхнікі паказвала, што людзі ўсё ж недзе ёсць. І яго цяперашнія дзеянні найначай як пазіцыяй, або позай, не назавеш.*

*А што ж атрымаем мы, беларусы, ад гэтай пазіцыі? І ад першых паказных паездак па нашай зямлі кіраўніка Расіі? Калі нехта баіцца толькі таго, што расійскі бізнес цяпер усё „прыватызуе" сабе, і нічога не пакіне нам, нават і блізка не ўяўляе маштабаў трагедыі. Гэта яшчэ не гора. Як кажуць у народзе — багацце, гэта справа нажыўная. Кіраўнік Расіі едзе да нас і ў Казахстан, каб і маральна, і дзеяннямі, падтрымаць тую сістэму, якая ў гэтых краінах усталявалася. Каб паказаць усяму свету, што на гэтых землях ён не дапусціць аніякіх перамен, бо яму трэба, каб было так, як ёсць зараз.*

*І пасля гэтага хіба ўжо ніхто не стане разважаць пра шматвектарнасць палітыкі гэтых краін, якія наведае Пуцін у свае першыя паездкі. Ці яшчэ смяшней, разважаць пра магчымасць іх заходні вектар развіцця, ці пра пацяпленне адносін з Захадам, або пра магчымую інтэграцыю з Еўропай. Новы начальнік Расіі сваімі першымі паездкамі паказвае ўсяму свету, што ён гэтага не дазволіць ні залежным ад яго краінам, ні самой Расіі.*

**Віктар САЗОНАЎ**

# Пушчанская галеча

*Малое пушчанскае паселішча званае Гайнаўкай сваё развіццё абавязана... рабаўнікам. Прызнаюся, гучыць гэта дзіўнавата, але цяжка пярэчыць фактам. Рабаўнікамі былі нямецкія акупанты, якія ў гады Першай сусветнай вайны пачалі буйнапрамысловую эксплуатацыю Белавежскай пушчы. Тады якраз пабудавалі ў Гайнаўцы суперсучаснае як на тыя гады хімічнае прадпрыемства і тартак для перапрацоўкі драўніннай сыравіны. А перапрацавалі яе нямала. На працягу ледзь трох гадоў, з 1915 да 1918 года, перарабілі на месцы або вывезлі ў Рэйх больш за 5 мільёнаў кубаметраў драўніны. Спустошэнню падвяргнулася амаль 20 тысяч гектараў пушчы. Да высечкі лесу занялі 1200 нямецкіх жаўнераў, 3 тысячы расійскіх і французскіх палонных ды 8 тысяч мясцовых рабочых сарганізаваных у батальёны.*

*У першы год акупацыі немцы эксплуатавалі лес пры ўжо існуючых дарогах і шырокакалейцы на шляхах Гайнаўка — Чаромха і Гайнаўка — Нараўка да паблізу сплаўных рэк Нарвы, Нараўкі, Лясной і Яселды. У меру паступаючай высечкі давоз драўніны з аголенай уздоўж гэтых шляхоў пушчы станавіўся ўсё цяжэйшым. У 1916 годзе, пачаўшы ад вясны, нямецкі акупант, карыстаючыся 500 ваеннапалоннымі, пачаў пабудову вузкакалейкі. Яе першы 30-кіламетровы адрэзак здалі ў карыстанне ў апошнія дні мая таго ж года. Пралягаў ён да Масева. На яго дзевятым кіламетры, лічыўшы ад Гайнаўкі, паставілі часовы барак, а на чатырнаццатым — дэпо для 4 паравозаў. Пару месяцаў пасля праклалі пуці на шляху Гайнаўка — Старына. Ды на гэтым не кончылі. Год пасля малыя паравозікі, спецыяльна прыцягнутыя з Нямеччыны, каціліся ўжо па шляху Старая Белавежа — Гайнаўка, ад якога на 9-м кіламетры адыходзіла 3 кіламетры пуцей у Чарлёнку. Якраз каля таго шляху каля Будаў пабудавалі 4 кіламетры загрузачнага пуці. У той жа самы год праклалі пуці на шляху Стачок — Белавежа — разам з адгалінаваннем у Лядскую пушчу. Яго апошняй станцыяй была вёска Рыбакі непадалёк мястэчка Нарва. Апрача пастаянных пракладвалі таксама пераносныя пуці, якія, у залежнасці ад патрэб, устанаўлівалі ў месцах інтэнсіўнай здабычы сыравіны. Агульная даўжыня вузкакалейных шляхоў пад канец акупацыі налічвала каля 200 кіламетраў, абслугоўвалі яе 10 паравозікаў.*



*Немцы пакінулі тэрыторыю пушчы толькі ў канцы 1918 года, каб вярнуцца ў яе праз 20 гадоў, у час Другой сусветнай вайны. Пакуль гэта наступіла, Гайнаўка памалу, але паслядоўна ператваралася з паселішча ў немалы горад. Шматлікія прадпрыемствы перапрацоўкі драўніны, часта выкарыстоўваючыя самыя сучасныя тэхналогіі, давалі працу растучай грамадзе рабочых.*

*Гайнаўка і прылягаючая да яе пушча былі смачным кавалкам не толькі для гітлераўскай Нямеччыны. Таксама Савецкі Саюз вастрыў на яе зубы. Шматлікія, хоць дробныя карэктуры акупацыйных зон у 1940 годзе паміж часовымі саюзнікамі даказваюць, што таргі за Белавежскую пушчу былі паміж імі заўзятыя. Канчаткова горад з часткай пушчы дастаўся гітлераўскай Нямеччыне. І немцы, як рабаўнікі, адразу прыступілі да грабежніцкай эксплуатацыі пушчанскага дрэвастою. З гэтай нагоды разбудавалі таксама лясныя пуці, хоць у большасці мелі яны часовы характар.*

*Прыйшоў 1944 год. Адступаючыя акупанты разбурылі большасць гайнаўскіх фабрык, а чаго не далі рады знішчыць, забралі з сабою. Аднак пуцей, аплятаючых густой сеткай пушчанскую глуш, не здолелі знішчыць.*

*Пушчанскую вузкакалейку інтэнсіўна эксплуатавалі да васьмідзесятых гадоў XX стагоддзя. Агулам перавезлі ёю некалькі — а паводле іншых ацэнак — каля дваццаці мільёнаў кубаметраў драўніны. Ну, што ж, рабаўніцкая натура трымаецца ў кожным народзе. У дзевяностыя гады пачаўся паступовы дэмантаж калейкі. А шкада! Чыгуначныя шляхі, якія немцы калісь разбудавалі, сёння маглі б быць немалым атракцыёнам для турыстаў, таксама і гэтых з Нямеччыны. Такім чынам кола гісторыі закруглілася б: спачатку яны нас, а цяпер мы іх маглі б аскубаць дагала. А так — дык хто свеціць галечай?*

**Мірaслаў ГРЫКА**

**Вачыма еўрапейца**

# Опера адкрывае браму

*У рэшце рэшт знайшлася ў Беластоку культурная ўстанова, якая ў практычным вымярэнні пачала думаць пра прыгранічнае польска-беларускае месцазнаходжанне падляшскага рэгіёна і яго сталіцы ды пра беларускасць, як элемент падтрымкі шматкультурнасці, падтрымкі запісанай ва ўсялякія мясцовыя дакументы. Гэта Падляшская опера і філармонія, замацаваная пры Маршалкоўскай управе Падляшскага ваяводства. І хаця опера пачне сваю дзейнасць толькі з найбліжэйшага артыстычнага сезона і маю шмат сумненняў наконт ліквідацыі яе фінансавання, то ўжо дырэкцыя гэтай установы падала сігналы, што мясцовая беларускасць і памежная Беларусь не будуць спіхвацца на абочыну, як гэта бывае ў выпадку іншых беластоцкіх культурных устаноў, асабліва тых з гарадскім статусам. У адной з мясцовых газет дырэктар Падляшскай оперы і філармоніі Раберта Скальмоўскі заўважыў:*

*— Нашай мэтай з'яўляецца прамоцыя сярод беларусаў [тут мова пра грамадзян Рэспублікі Беларусь, але мяркую, што не толькі пра іх — М. Х.] багацця Беластока, цэлага рэгіёна, у тым і высокага мастацтва ў новай рэзідэнцыі. Заявіў ён, што па ініцыятыве генеральнага консула Рэчы Паспалітай у Гродне Анджэя Хадкевіча і ў пагадненні з Маршалкоўскай управай, яго ўстанова мае „запрапанаваць комплексны культурна-турыстычны прадукт, прывабны асобам з-за ўсходняй граніцы". Можна будзе тады ў беларускіх турбюро, купіўшы білет на мастацкія мерапрыемствы ў оперы, атрымаць візу бясплатна. Дырэктар Скальмоўскі дадае:*

*— Гэта магло б стаць культурным адкрыццём нашых граніц.*

*Да гэтага, спадзяецца ён, падобныя палёгкі стануць магчымымі і для грамадзян Польшчы, якія захочуць пакарыстацца культурнай прапановай у Беларусі. Усё гэта выглядае цікава, але — па-мойму — такая прапанова была б больш па душы польскім грамадзянам, бо цэны ўваходных білетаў у культурныя ўстановы ў Беларусі намнога меншыя чым у Польшчы. Мяркую, што консулу Хадкевічу і дырэктару Скальмоўскаму (запар з Маршалкоўскай управай) трэба было б падумаць пра паніжэнне цэн білетаў для любіцеляў культуры з Беларусі. Бо што за розніца беларускаму грамадзяніну, ці заплаціць за візу ці столькі ж (а, магчыма, і больш на нейкае надта прыцягальнае мерапрыемства) за білет у беластоцкую оперу. Добра, аднак, што думка дырэктара Падляшскай оперы і філармоніі кіруецца ў добрым напрамку.*

*Пра гэта сведчыць і абвяшчэнне ім фестывалю, прысвечанага Яну Тарасевічу, недастаткова ацэненаму мінулавечнаму кампазітару з Саколкі, настаўніку маэстра Ежы Максымюка, а захаванаму ад забыцця нашай рэдакцыйнай сяброўкай Ганнай Кандрацюк-Свярубскай.*

*— Гэта будзе зачэпкай для наладжання міжнароднага фартэпіяннага конкурсу для дзяцей і моладзі імя Яна Тарасевіча. Адбор мог бы прайсці ў абедзвюх краінах, фінал адбыўся б у Беластоку, а пасля лаўрэаты паехалі б у Гродна, — плануе дырэктар.*

*Маюць быць таксама апрацаваны на дзвюх мовах творы гэтага кампазітара для дзяцей і моладзі, якія бясплатна трапілі б у музычныя школы на Падляшшы. Да таго ж Падляшская опера і філармонія плануе наладзіць у найбліжэйшым сезоне фестываль Вялікага Княства Літоўскага; яго падрабязнасці яшчэ дапрацоўваюцца. Дагэтуль вядома, што маюць у ім прыняць удзел м.інш. джазмены з Гродна і Коўна. Такім чынам — усё на гэта паказвае — Падляшская опера (і, вядома, філармонія) могуць сыграць ролю той прыгадванай брамы на Усход, якая не пакідае звонку мясцовай культурнай разнавіднасці, так часта ганарыста называнай багаццем Беластока і рэгіёна. І на дадатак — прадчуваю, што ў Падляшскай оперы і філармоніі працуюць нейкія добрыя беларускія феі. Выдатна!*

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

# МАТУРАЛЬНЫЯ ЭКЗАМЕНЫ па беларускай мове





Злева: гайнаўскія і бельскія белліцэісты

**Матуральныя экзамены не толькі падводзяць вынікі працы вучняў, але ўспрымаюцца імі як пропуск у вышэйшыя навучальныя ўстановы. Наогул у ВНУ не праводзяцца дадатковыя экзамены, толькі на падставе матуральных вынікаў па выбраных прадметах вырашаецца, хто будзе прыняты на паасобныя спецыяльнасці. Канешне, выпускнікі, якія хочуць працягваць вучобу на мастацкіх вучэльнях або, напрыклад, у акадэміі фізкультуры, вымушаны прайсці праверку ўмеласцей. Аднак на канчатковыя вынікі матуральных экзаменаў уздзейнічаюць не толькі здольнасці, ангажаванасць і праца, але таксама ўзровень навучання. Калі Бельскі і Гайнаўскі белліцэі вулучаюцца высокім узроўнем навучання, што прыцягвае таксама выпускнікоў гімназій, якія раней не вучыліся беларускай мове, белліцэістам лягчэй паспяхова справіцца з матуральнымі выпрабаваннямі.**

— У мінулым школьным годзе ў Бельскім павеце з матуральнымі экзаменамі станоўча справілася звыш 66% выпускнікоў звышгімназічных школ, а ў нашым белліцэі — 99,6%. Матуральнага экзамену не здаў толькі адзін наш вучань. Гэта паказвае, што ў нашым павеце маем школы, у якіх мала вучняў здае ўсе матуральныя экзамены, — удакладніў дырэктар Бельскага белліцэя Андрэй Сцепанюк.

У цяперашнім школьным годзе да матуральных экзаменаў прыступілі 137 вучняў Бельскага і 116 — Гайнаўскага белліцэяў. Ахвоту здаваць матуральныя экзамены дэкларавалі таксама асобы, якія закончылі адукацыю ў белліцэях у мінулым годзе, а нават намнога раней, але па розных прычынах не прыступілі да экзаменаў. У гэтым годзе 10 асоб з гайнаўскай школы і 9 асоб з бельскай былі звольнены з матуральнага экзамену па беларускай мове. Яны — лаўрэаты і фіналісты цэнтральных элімінацый Алімпіяды беларускай мовы. Былі таксама звольнены з экзаменаў некалькі пераможцаў іншых прадметных алімпіяд. Хаця частка выпускнікоў белліцэяў апасаецца, ці справяцца з абавязковым пісьмовым экзаменам па беларускай мове, то наогул белліцэісты, нават і тыя, якія раней не вучыліся па-беларуску, паспяхова спраўляюцца з гэтым матуральным экзаменам. Яшчэ больш спакойна праходзяць прэзентацыі па беларускай мове, у час якіх вучні выказваюцца па раней выбраных тэмах.

Настаўніца беларускай мовы з Беластока Іаанна Васілюк гаварыла раней, што абавязковы матуральны экзамен па беларускай мове гэта адна з прычын таго, што вялікая частка беластоцкіх гімназістаў не рашаецца працягваць адукацыю па-беларуску ў ліцэі. Таксама віцэ-дырэктар Школьна-прадшкольнага комплексу ў Нарве і заадно настаўнік беларускай мовы Ігар Лукашук заявіў, што ад выпускнікоў белліцэяў і іншых вучняў, што вучацца беларускай мове ў звышгімназічных школах, не павінна патрабавацца, каб абавязкова здавалі матуральны экзамен па беларускай мове. Паводле нарваўскага дырэктара трэба намагацца, каб адмяніць абавязковасць матуральнага экзамену па беларускай мове, памяняць праграмы навучання так, каб на занятках было больш гісторыі Беларусі і больш увагі адводзілася пытанням, якія зараз найбольш цікавяць моладзь з беларускіх сем'яў.

— Я лічу, што выпускнікі белліцэяў павінны здаваць матуральны экзамен па беларускай мове, але трэба задумацца, ці вынікі з гэтага экзамену павінны мець уздзеянне на здавальнасць усіх матуральных экзаменаў (каб вучань, які не справіцца з матуральным экзаменам па беларускай мове мог паступіць на выбраную спецыяльнасць у вышэйшай навучальнай установе — А. М.) і ў гэтым напрамку трэба правесці дыскусію. Аднак дзеля ўвядзення такіх змен трэба было б увесці змены ў сістэму адукацыі Польшчы, якія кранулі б таксама літоўцаў і ўкраінцаў. Зараз перш за ўсё трэба памяняць праграму навучання па беларускай мове, каб больш знаёміць вучняў з мясцовай беларускай гісторыяй і побач класікі беларускай літаратуры намнога больш увагі адводзіць творчасці мясцовых беларускіх пісьменнікаў. Перш за ўсё трэба, каб на занятках было намнога больш практычных заняткаў па беларускай мове. Нашы ліцэісты выводзяцца з польскамоўных сем'яў. Канчаючы яны белліцэй і цяжка ім размаўляць на беларускай літаратурнай мове. Калі нашыя ліцэісты не навучацца добра размаўляць і хутка чытаць па-беларуску, то пазней не будуць чытаць беларускіх кніжак ці „Нівы", — сказаў дырэктар Андрэй Сцепанюк.

— Я беларускай мове вучылася 12 гадоў у „тройцы" і ў белліцэі і вы самі бачыце, што добра не гавару па-беларуску. Калі хто паступіў у белліцэй і рашыўся вучыцца беларускай мове, гэта не значыць, што павінен здаваць матуральны экзамен па беларускай мове, хаця нескладана і здаць яго. Аднак кожны чалавек, які лічыць сябе беларусам, павінен ведаць беларускую мову і шанаваць яе, — заявіла Оля Лаўрыновіч з Бельскага белліцэя.

Яе школьныя сябры Марта Маліноўская і Матэвуш Сцяпанаў гаварылі, што яны не супраць таго, што вучоба беларускай мове канчаецца ў белліцэі абавязковым матуральным экзаменам. Калі зараз рыхтуецца „Стратэгія развіцця беларускай асветы", дыскусія на згаданыя тэмы магла б адбыцца ў калектывах, якія яе рыхтуюць.

Белліцэісты з Гайнаўкі і Бельска цёпла выказваліся аб уроках беларускай мовы і станоўча ацэньвалі адукацыю ў белліцэях.

— На ўроках беларускай мовы была добрая атмасфера, настаўнікі цікава вялі заняткі, — сказала Марта Тамашук з Гайнаўскага белліцэя.

— Я пачаў вучыцца ў белгімназіі. Спадабалася мне тут і я рашыўся працягваць адукацыю ў белліцэі, дзе добра сябе адчуваю. Нашая школа з ухілам на беларускую мову. Апрача заняткаў па беларускай мове беларуская атмасфера пануе на некаторых школьных мерапрыемствах, — заявіў Ігар Пліс з Гайнаўскага белліцэя.

Бельскія ліцэісты рады перш за ўсё высокаму ўзроўню навучання ў іх школе.

— Я ў сваёй прэзентацыі буду расказваць пра творчасць Віктара Шведа і Міколы Гайдука. Я палюбіла вершы Віктара Шведа яшчэ з дзяцінства. У нас было некалькі кніжак гэтага пісьменніка. Мая мама чытала мне вершы Віктара Шведа і любоў да яго творчасці засталася ўва мне да сёння, — сказала Марта Тамашук.

Пра творчасць Віктара Шведа распавядала ў час прэзентацыі таксама Оля Лаўрыновіч з Бельскага белліцэя. Многія белліцэісты выступалі з прэзентацыямі на тэму іншых пісьменнікаў, напрыклад, Матэвуш Сцяпанаў з Бельска расказаў пра Якуба Коласа і ягоныя вопісы прыроды. Іншыя белліцэісты расказвалі, між іншым, пра беларускія абрады і веравызнанне.

— Калі я была малой, мой бацька чытаў мне вершы Віктара Шведа. Я ўспамінаю іх з асаблівым сентыментам. Нават сёння бацька прадэкламаваў мне некалькі вершыкаў Віктара Шведа, каб падтрымаць мяне на духу перад прэзентацыяй, — гаварыла Оля Лаўрыновіч.

Наталля Скепка з Гайнаўкі распавяла пра зімовыя абрады „гагатухі", Вадохрышча і тыя прымеркаваныя да Раства Хрыстовага на падставе апаведаў сямейнікаў і ўласных назіранняў у Семяноўцы.

— У будучыні я хацела б стаць журналістам. Яшчэ ў гімназіі я пісала тэксты ў гайнаўскую газету і мне гэта спадабалася, — сказала Наталля Скепка.

Марта Маліноўская ў час прэзентацыі расказала пра сваю маці, Лідзію Маліноўскую, і яе зборнік „Жураўліная журба", выдадзены ў мінулым годзе.

— У гэтым зборніку змешчаны вершы і некалькі празаічных твораў, у якіх маці апісвае сваё жыццё і жыццё іншых асоб, нашую рэчаіснасць. У некаторых творах адчуваецца туга па бацькаўшчыне, прысутнічаюць у іх таксама матывы прыроды. Я вельмі эмацыянальна стаўлюся да творчасці мамы, якой я захапляюся. Мама таксама піша словы да беларускіх песень, якія я выконваю сола на беларускіх мерапрыемствах. У час прэзентацыі буду звяртаць асаблівую ўвагу на верш „Не забудзь", у якім маці напамінае, каб мы не забывалі роднай беларускай мовы, — сказала Марта Маліноўская, вядомая салістка з Бельскага белліцэя, якая расслаўляе беларускую мову спевам. Яе маці Лідзія Маліноўская вядомая перш за ўсё як спявачка беларускага калектыву „Маланка".

— Я буду распавядаць аб творчасці Максіма Гарэцкага. Мае сябры раскажуць, напрыклад, пра беларускія парталы ў інтэрнэце, пра сваю сям'ю і радавод. Рыхтуючыся да прэзентацыі я звярнуў увагу, каб была яна цікавай і каб не абмінуць найбольш важных спраў, — гарваў Ігар Пліс.

Рыхтуючыся да пісьмовага экзамену гайнаўскія белліцэісты паўтаралі пройдзены матэрыял і пісалі творчыя працы па выбраных тэмах. У час пісьмовага матуральнага экзамену па беларускай мове, які пройдзе 23 мая, вучні будуць мусілі справіцца з адкрытымі і закрытымі задачамі, напісаць творчыя працы.

— На ўроках беларускай мовы мы пісалі разважанні на розныя тэмы, каб здабыць умеласць пісаць творчыя работы ў адпаведнасці з матуральнымі патрабаваннямі, — сказала Оля Лаўрыновіч.

— Я буду гаварыць аб гісторыі маёй мясцовасці, Белавежы, якая мне моцна падабаецца. Аднак усё ж такі бачу сваю будучыню не ў Белавежы, але далей ад дома, — заявіла Марта Шымчак.

Вучні мелі змясціцца са сваімі апаведамі ў 15 хвілінах, а пасля адказвалі на пытанні матуральнай камісіі. Большасць гайнаўскіх і бельскіх белліцэістаў збіраюцца паступаць у вышэйшыя навучальныя ўстановы ў Беластоку, перш за ўсё па прычыне блізкасці Беластока ад Бельска і Гайнаўкі. Аднак заўважальная частка вучняў рашаецца таксама вучыцца ў Варшаве і іншых гарадах Польшчы.

## Ці ўраўнуюць?

Калі салідарнікі прыходзілі да ўлады, абяцалі ўраўнаваць умовы жыцця на вёсках і ў гарадах. Гаварылі, што ліквідуюць камуністычны застой, асабліва на вёсках.

І сапраўды, сур'ёзна ўзяліся за справу. У выніку ў гмінных самаўрадах не хапіла грошай на вулічнае асвятленне. У вёсках вулічныя лямпачкі гараць ноччу некалькі гадзін, а ў гарадах мільёны лямпачак гараць усю ноч, а часам нават і ўдзень.

Гарадскія ўлады вядуць акцыю бясплатнага прышчэплівання пенсіянераў, а ў гмінных самаўрадаў няма на гэта грошай.

Цяпер гарадскія ўлады заявілі, што пенсіянерам і маламаёмным гараджанам будуць вяртаць грошы за выкупленыя лякарствы, калі яны каштуюць больш за 35 зл. А ў гмінных асяродках сацыяльнай дапамогі, калі прыйсці з аптэчнай квітанцыяй, скажуць: „Ты — пенсіянер, то і маеш грошы на лякарствы". Усе ведаюць якія ў нас сялянскія пенсіі — усяго 600-800 зл.

На маю думку, у нашай цяперашняй дэмакратыі ніхто не ўраўнуе вёскі з горадам, хутчэй з зямлёй...

## Гмінная дарога

Гмінная дарога з вёскі Бялкі ў вёску Сакі, што ў Нарваўскай гміне — доўгая на 2,5 км і шырокая на 15 м — гэта грунтовая дарога. Нават старажылы ўжо не помняць, калі яе апошнім разам рамантавалі. Цяпер яна амаль поўнасцю пралягае праз дзяржаўны лес, які належыць Надлясніцтву Жэдня. Калі яго садзілі, ніхто не звяртаў увагі на геадэзічныя капцы і шырыню дарогі. Прайшлі гады, лес вырас і цяпер у некалькіх месцах цяжка машынам размінуцца.

На гэтай жа дарозе каля самой вёскі Сакі на стометровым адрэзку на палове шырыні дарогі растуць тоўстыя вязы. Яны так перашкаджаюць вадзіцелям, што тыя сталі ўжо ездзіць па прыватнай зямлі. Яе ўладальнік абураецца на людзей. Калі б ён абгарадзіў свой участак, тады ніхто тудою не праехаў бы.

Варта, каб праўленне Нарваўскай гміны яшчэ раз пратрасіравала гэтую дарогу, высекла дрэвы на праезнай частцы і адрамантавала яе на ўсёй даўжыні.

**Мікалай ЛУК'ЯНЮК**

## Бяздомныя сабакі

З надыходам вясны на вуліцах Чаромхі прыкмячаецца шмат валэндаючыхся сабак. Найбольш можна сустрэць іх у цэнтры пасёлка на вуліцы 1 Мая — ад рыначку па цэнтральны чыгуначны пераезд, як і пры чыгуначнай станцыі. Гэта адна з больш рухлівых вуліц у пасёлку. І валасы чалавеку становяцца дыбам (не гавару пра дзетак, якія падаюцца ў школу), калі прыходзіцца размінацца са зграяй сабак. Народная мудрасць напамінае: „Сабаку не вер". Неадночы бачыў як чатырохногія праводзілі веласіпедыста ці аўтамабіль з'едлівым брэхам. А што будзе, калі схопяць за лытку? Выпадак „мураваны"! Каго тады прыцягваць да адказнасці? Праблема спрадвечна вядомая не толькі гміннаму самаўраду, але і паліцыі. Чыноўнікі бездапаможна разводзяць рукамі: няма месца ў прытулках для жывёл ды сродкаў на вылаўліванне бяздомных чатырохногіх. І так каруселъ круціцца штогод. Ці няма на гэта паратунку? Старажылы кажуць: „Калі сабаку хочаш стукнуць, кій заўсёды знойдзеш". Святая праўда!

**Уладзімір СІДАРУК**

■ Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН

# Юбілей у Востраўскім прыходзе





*Матушка Людміла і бацюшка Аляксандр Клімукі ўжо 30 гадоў апякуюцца Востраўскім прыходам. Многа што за гэты перыяд памянялася і ў лепшы, і ў горшы бок. Напэўна найбольш балючай справай з'яўляецца адміранне навакольных, у тым ліку і прыхадскіх, вёсак. Вяселляў і хрысцін тут амаль не сустрэнеш, адны пахаванні. Няма каму таксама і на хорах спяваць, апошнія пеўчыя астаткам сіл туды падымаюцца.*

Востраўскі прыход бедны на людзей, затое багаты на цэрквы, якіх аж тры. Бацюшка Аляксандр па меры сваіх магчымасцей клапоціцца пра ўсе храмы. Не толькі асабіста займаецца пошукам грошай на мнагалікія рамонты, але таксама не баіцца найбольш чорнай работы. Усё стараецца, каб хапіла скромных сродкаў, каб давесці кожную пачатую справу да канца. Робіць безупынна. Мо рыхтуецца да лепшых часоў, верыць у адраджэнне апусцелага наваколля... Ён здзейсніў таксама свой вялікі план пабудовы новага, прыхадскога дома. Бацюшку Аляксандру ў жыцці пашанцавала. Бог паслаў яму вялікага сябра і памочніка — матушку Людмілу, чалавека вельмі актыўнага, які дбае пра грамадскія справы. Яна служыць парадай пры вырашанні важных, у тым ліку і фінансавых праблем, асабіста прыбірае і ўпрыгожвае жывымі кветкамі, вышыванымі ручнічкамі ўсе тры цэрквы. Наведвальнікі востраўскіх багаслужбаў захапляюцца ейным сапрана, мабыць найпрыгажэйшым у наваколлі. Ужо больш за трыццаць гадоў матушка паспяхова выконвае паслугу царкоўнага рэгента. Калі б існавала школа матушак, то менавіта з яе маглі б браць прыклад усе недавучаныя і маладыя кандыдаткі. Яна вельмі любіць людзей, з кожным знойдзе супольную мову. Клапоціцца і безупынна думае пра сваіх прыхаджан. Ейная дабрыня сустракаецца з узаемнасцю — бабулькі прыносяць ёй свойскія яйкі, вяжуць шкарпэткі і рукавіцы на зіму, маладыя просяць у кумы. У прыхадскім доме дзверы не зачыняюцца, для кожнага знойдзецца кубак гарбаты і добрае слова. Тут таксама жыве сапраўдны, беларускі дух. Заўсёды гучыць беларуская, натуральная гутарка і народная песня, на стале ўбачыш свежы нумар „Нівы" і беларускую кніжку. Намаганнямі, між іншым, матушкі — вопытнага педагога — у школе ў Шудзялаве вядуцца ўрокі беларускай мовы. Мабыць, дзякуючы ёй працягвае свай нялёгкае жыццё крынскае таварыства „Тэрра Інкогніта". Ва ўсіх мнагалікіх, вельмі цяжкіх хвілінах яна была і надалей ёсць з таварыствам, заўсёды падтрымае, падбадзёрыць і проста парадуе сваёй прысутнасцю.

Круглая, трыццатая гадавіна прысутнасці сям'і Клімукоў у Востраве адзначалася ў сапраўды сяброўскай атмасферы. Без выключэнняў усе сабраныя ў царкве на нядзельнай службе былі запрошаны ў прыхадскі дом на пачастунак. Абышлося без модных да болю віпаў ці грашавітых бізнесменаў. За супольным сталом знайшлося таксама месца хлопцам з беластоцкага царкоўнага брацтва, якія нечакана з'ехаліся сюды на выхадныя. Уладзімір Байгуз, уручаючы юбілярам кветкі, сказаў: „Помню свае маладыя гады. Усё сваё доўгае жыццё я правеў у гэтым прыходзе, многа бацюшкаў тут бачыў. Яны прыходзілі і адыходзілі. Ніхто не зрабіў столькі для нас, што вы з матушкай. Дай вам Бог другіх трыццаць гадоў тут пражыць, каб ніколі не старэлі і заставаліся здаровымі".

## У гуртку гайнаўскіх інвалідаў па зроку

У 1951 годзе, у выніку аб'яднання арганізацый, якія дзейнічалі ў карысць інвалідаў па зроку, паўстаў Польскі саюз невідучых, а ў кароткім часе пачаў дзейнічаць гуртко ПСН у Гайнаўцы. Працуе ён, насуперак розным перашкодам, да сённяшняга дня і надалей вядзе рэабілітацыйна-інтэграцыйную дзейнасць.

— Мы ствараем магчымасць прымаць удзел у індывідуальных абучэннях па самаабслузе ў паўсядзённай дзейнасці, прасторавай арыентацыі, у курсах чытання і пісання метадам Брайля, — кажа старшыня гуртка ПСН у Гайнаўцы Аліцыя Леанюк. — Арганізуем таксама сустрэчы, якія хаця б на хвілінку дазваляюць нам, інвалідам, забыцца аб штодзённых клопатах і хваробах, з якімі мы сустракаемся і змагаемся. Сёння ў нашым гуртку каля 80 членаў. Сярод нас ёсць асобы, якія слаба бачаць, але кожны іначай. Некаторыя цалкам не бачаць, іншыя пакутуюць ад звужанага, г.зв. трубчастага, поля бачання (калі бачаць як цераз замочную шчыліну), у яшчэ іншых выступае скатома — цэнтральная або рассеяная, а яшчэ іншыя бачаць як цераз імглу. На жаль не для ўсіх памагаюць акуляры. Нягледзячы на зменлівасць лёсу, на перашкоды, якія сустракаем на сваёй дарозе, стараемся не падаць духам. Для членаў нашага гуртка неабходнымі з'яўляюцца рэабілітацыйныя прылады, напрыклад камп'ютары, якія ператвараюць інфармацыю ў гукавы (маўленне), рэльефна-кропкавы (брайль) і павялічаны фарматы, гадзіннікі, якія гавораць, інструменты для распазнавання колераў, дыктафоны, аўдыёкнігі, аптычныя лупы, дэтэктары вадкасці ці іголкі для невідучых.

У гуртку шмат добрых людзей, якія актыўна дзейнічаюць у карысць свайго асяроддзя. Аднак найбольшы ўклад у рэалізацыю місіі ПСН на Гайнаўшчыне зрабілі Віктар Янчук, Браніслава Хадкевіч, Станіслава Берк, Галіна Шыманская, Яўгенія Навіцкая, Януш Пух і старшыня Аліцыя Леанюк.

— Сядзіба нашага гуртка ў Гайнаўцы знаходзіцца па вуліцы Пілсудскага, 10А, — сказала на заканчэнне Аліцыя Леанюк. — Пры нагодзе хачу вельмі сардэчна падзякаваць мясцовым уладам за прызначэнне нам памяшкання на патрэбы нашага гуртка. Для многіх асоб гэта месца, дзе яны могуць знайсці ўзаемаразуменне для супольных праблем. Дзяжурствы ў нас адбываюцца ў кожны першы і апошні панядзелак месяца ад 9 да 12 гадзіны.

**Віктар БУРА**

Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА

# Пазнай Беларусь — 4

Ужо ў чацвёрты раз завяршыўся ў Беластоку конкурс „Пазнай Беларусь”. Сёлета прыняло ўдзел амаль трыста асоб. Абвяшчэнне вынікаў і ўручэнне ўзнагарод лаўрэатам адбылося ў сядзібе Галоўнага праўленя Беларускага грамадска-культурнага таварыства, побач Культурнага цэнтра Беларусі (КЦБ) у Польшчы, галоўнага арганізатара „змаганняў”. У конкурсныя баі сталі дзеці і моладзь ва ўзросце 5-19 гадоў. Працы былі ацэнены ў чатырох катэгорыях: найлепшы малюнак (пластычная праца) аб Беларусі, здымак пра Беларусь ці беларусаў, літаратурна-паэтычны твор аб Беларусі, сачыненне „Беларусь і беларускасць у гісторыі маёй сям’і”.


Давід Аляксеюк з дырэктарам КЦБ А. Карачуном

Усіх лаўрэатаў немагчыма пералічыць на старонках „Нівы”, бо было іх амаль паўсотні. Ацанялі іх ва ўзроставых катэгорыях: 5-7, 8-12, 13-15 і 16-19 гадоў. Усе, апрача грамат, атрымалі каштоўныя ўзнагароды: бумбоксы, MP3-плэеры і фотаапараты. У размове з журналістамі дырэктар КЦБ Аляксандр Карачун (пасля са сцэны зачытаў віншавальны ліст ад пасла РБ у Польшчы Віктара Гайсёнка) сказаў:

— Гэты конкурс служыць папулярызацыі ведаў пра Беларусь, каб дзеці ўключаліся ў здабыванне ведаў пра яе гісторыю і культуру. Служыць таксама падтрымцы дзяцей, якія вывучаюць беларускую мову. Конкурс карыстаецца вялікай папулярнасцю. Штогод удзельнічае ў ім 300-400 дзяцей. Фантазія дзяцей захапляе незалежна ад таго, ці, напрыклад, малюнак прадстаўляе хатку, ці праваслаўны храм, ці маму, тату, сям’ю ў нацыянальных строях, ці будуць гэта нейкія месцы ў Беларусі ці тут, у Польшчы, звязаныя з беларушчынай. Старэйшыя дзеці больш цікавяцца фатаграфіяй.

Дванаццацігадовая Эмілія Міхалёва з Непублічнай пачатковай школы святых Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку, якая сваю працу выканала пад апекай Евы Пятроўскай і атрымала ў конкурсе вылучэнне, расказвала нам: „Я намалявала карту Беларусі з буслом, сімвалам Беларусі, і зубром”.

Трынаццацігадовая лаўрэатка аднаго з другіх месцаў Юліта Данільчук з Комплексу школ з навучаннем беларускай мовы ў Бельску-Падляшскім (праца выканана пад апекай Міраславы Маркевіч):

— Я намалявала бабулю, апранутую ў нацыянальны строй, якая працуе на калаўротку. Мая цёця была ў Беларусі і, пабачыўшы там адну выставу, падказала мне тэму.

Лаўрэат першага месца ў катэгорыі сачыненне „Беларусь і беларускасць у маёй сям’і” і другога месца ў катэгорыі фатаграфія Максім Фіёнік з бельскага Комплексу школ з беларускай мовай (апека Валянціны Бабулевіч):

— У сваім апавяданні я апісаў экспедыцыю на Палессе. У розных бабуль і дзядуль запісваў я там іх песні. Быў таксама ў спадарыні, якая лечыць травамі. На конкурс заявіў я таксама здымкі, якія я рабіў на Палессі, і на якіх відаць перш за ўсё абрады. У Беларусі ёсць вельмі прыгожыя месцы, дзе можна пазнаёміцца са шматлікімі цікавымі людзьмі і пабачыць месцы, якіх у Польшчы не знойдзеш.

Наталля Скепка з белліцэя ў Гайнаўцы (апякун Ян Карчэўскі) здабыла першую ўзнагароду за мастацкую працу „За акном маіх дзядоў”:

— Гэты конкурс — знакамітая нагода, для знаёмства з абычаямі і звычаямі Беларусі. Прымаю ў ім удзел другі раз. Сёлета я намалявала карціну. Гэта вокны з макаткамі, такі від на Беларусь. Я не была ў Беларусі яшчэ ні разу. Да гэтага часу па-беларуску часта размаўляю з сястрой.

Максім Фіёнік

Сярод удзельнікаў конкурсу былі дзеці, якія засяродзіліся на мастацкім і літаратурным апісанні тутэйшай, падляшскай беларушчыны. Так зрабілі м.інш. дзеці, што вучацца пад апекай настаўніцы з Шудзялава, матушкі Людмілы Клімук, між іншым Юлія Кендысь (12 гадоў; лаўрэатка ўзнагароды за сачыненне „Беларусь бабкі Любы”). Пасля выслухання сваёй бабулі, лацінскімі літарамі на сваёй гаворцы апісала яе аповеды аб мінулым і сучаснасці Шудзялаўскай гміны. Успомніла м.інш. аб тым, што пасля ўваходу савецаў бабуля была трактарысткай. Людміла Клімук:

— У конкурсе ўдзельнічала чацвёра маіх дзяцей з трыма літаратурнымі працамі і адной мастацкай. Дзякуючы ўдзелу ў ім дзеці пашыраюць свае гарызонты. У нашым рэгіянальным беларускім кружку спазнаем свет, але не той далёкі, і тое, што калісь мелі мы тут на месцы.

Лаўрэаты ў час фінальнай сустрэчы захапляліся выступленнямі калектываў з Бельска-Падляшскага і Гайнаўкі. Спецыяльным госцем быў Дзіцячы ансамбль песні і танца „Цернічка” з Мінска. Кацярына Мядзведзь, хормайстар ансамбля:

— Мы спяваем беларускія народныя песні ў апрацоўцы кіраўніка групы Галіны Несцяровіч, якая таксама апрацавала праекты касцюмаў. Праграма скампанавана са спалучэння песні і танца. На сцэне няма статычнасці, дзеці ўвесь час у руху. Неўзабаве калектыў канчыць пятнаццаць гадоў. Шмат падарожнічае за мяжой. Быў у Англіі, Турцыі, Іспаніі, Італіі, ну і, вядома, часта бывае ў Польшчы. Дзеці маюць вопыт. Наш калектыў складаецца з некалькіх узроставых груп. Цяпер у Беласток прыехала васемнаццаць дзяцей ва ўзросце ад 9 да 15 гадоў.

Шкада толькі, што ў час чацвёртага выпуску конкурсу „Пазнай Беларусь” у сядзібе ГП БГКТ немагчыма было пазнаёміцца з узнагароджанымі працамі.

Вось лаўрэаты першых месцаў. Намінацыя *Найлепшы малюнак, мастацкая праца пра Беларусь.* Катэгорыя 5-7 гадоў: Марына Місяюк і Давід Алексяюк (прадшколле № 14 у Беластоку); катэгорыя 8-12 гадоў: Аляксандра Брэчка (Комплекс школ з дадатковым навучанем беларускай мовы ў Бельску); катэгорыя 13-15 гадоў: Гран-пры: Магдаліна Вілюк, I месца: Дыяна Леанюк (Комплекс беларускіх школ у Гайнаўцы); катэгорыя 16-19 гадоў: Наталля Скепка (Белліцэй у Гайнаўцы). Намінацыя *фотаздымак аб Беларусі ці беларусах.* Катэгорыя 8-12 гадоў: Эмілія Сахарэвіч (Комплекс школ у Бельску); катэгорыя 13-15 гадоў: Ганна Хомчук (ПШ № 3 у Гайнаўцы); катэгорыя 16-19 гадоў: Оскар Цюлькевіч (Белліцэй у Бельску-Падляшскім). Намінацыя *літаратурна-паэтычны твор пра Беларусь.* Катэгорыя 8-12 гадоў: Эмілія Хмур (Комплекс школ у Бельску-Падляшскім); катэгорыя 13-15 гадоў: Адам Харкевіч (Гімназія ў Нараўцы); катэгорыя 16-19 гадоў: Мірон Марчук (Белліцэй у Гайнаўцы). Намінацыя *Беларусь і беларускасць у гісторыі маёй сям’і.* Катэгорыя 8-12 гадоў: Максім Фіёнік (Комплекс школ у Бельску); катэгорыя 13-15 гадоў: Анжаліка Сцепанюк (КШ у Бельску); катэгорыя 16-19 гадоў: Наталля Мікалаюк (Белліцэй у Бельску-Падляшскім).

## Будзем помніць!

Ужо 67 раз адсвяткавалі мы гадавіну вызвалення, у тым ліку і нашай малой айчыны Беласточчыны, ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У нашай памяці навечна застануцца залатыя старонкі мужнасці беларускага народа ў змаганні з лютым ворагам. З пакалення ў пакаленне перадаюцца ўспаміны пра жудасную трагедыю, якая спасцігла ўвесь наш народ. Практычна ўся тэрыторыя Беларусі болей як тры гады знаходзілася пад акупацыяй фашыстаў і пацярпела ад яе як ніякія іншыя краіны — на алтар перамогі лёг кожны трэці жыхар Беларусі. Удзячныя нашчадкі заўсёды будуць помніць лепшых дачок і сыноў беларускага народа, якія сваёй мужнасцю, воляй і геразмам падаравалі нам магчымасць жыць пад мірным небам.

Многа магіл савецкіх салдат і партызанаў знаходзіцца на Беласточчыне. Могільнікі і помнікі ў нас задбаныя, упарадкаваныя. Пры нагодзе святкаванняў на магілках гарацьлампадкі, ляжаць жывыя кветкі. У Дзень Перамогі ў цэрквах памінаюць загінуўшых у час самай страшнай вайны XX стагоддзя.

Мне даводзілася і надалей даводзіцца сустракацца з ветэранамі, слухаць іх успаміны. З году ў год іх становіцца штораз менш, таму трэба іх падтрымліваць — і ў матэрыяльным, і ў маральным плане. Варта памятаць, што мы ім абавязаны ўсім! Калі гляджу на пасівелыя галовы ветэранаў, хочацца ім пажадаць, каб сэрцы і раны не балелі, каб не лечылі іх горкімі слязамі. З пашанай да ўсіх ветэранаў

**Віктар БУРА**

## Сізіфава праца

Павятовае праўленне публічных дарог у Гайнаўцы ранняю вясною прыступіла да латання дзірак у асфальце. Я вельмі ўцешыўся, калі на цэнтральным чыгуначным пераездзе ў Чаромсе прыкмеціў рамонтную брыгаду пры рабоце. Тут сапраўды на паваросе (у напрамку вакзала) ямак было шмат. Зрэшты... І далей дзіркі на гэтай дарозе траплялiся. Большыя і меншыя. Хваліў я ў думцы дарожных чыноўнікаў за тое, што акуратна ставяцца да службовых абавязкаў. Гэта было ў пачатках сакавіка. Два тыдні пазней я занямог і больш за месяц не выходзіў з хаты. Калі ў пачатках траўня зноў сеў на ровар і падаўся ў Чаромху, дык трапіў на тыя ж дзіркі ў асфальце, якія латалі ў сакавіку. А справа, даражэнькія, у тым, што ямкі запаўнялі халоднай бітумічнай масай. Яна не спалучылася з асфальтным палатном. Пад коламі аўтамабіляў маса выкрышылася і... засталіся даўнейшыя ямкі. Аказалася, што работа дарожнай брыгады была ўсяго сізіфавай працай. Не толькі грошы былі надарэмна затрачаны, але і праблема засталася нявырашанай. Ямкі ў асфальтным палатне (зрэшты, на кожнай дарозе), з’яўляюцца прычынай дарожных аварый, нават смяротных. Варта аб тым памятаць! **Уладзімір СІДАРУК**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.iig.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Сэрцайкі і матылькі



# для матулі!

— А цяпер пагуляем у „Ваўка”, — прапануе настаўніца.

У адказ раздаецца радасны крык, які доўжыцца некалькі хвілін. Усе хочуць іграць ролю *Ваўка*. Ён адшукае сброў схаваных у шафках, пад партай, на калідоры. У Арэшкаве прасторная школа, таму аж просіцца пагуляць у хованкі, зведаць школьныя закуткі і ўсе шчыліны.

— Але ў нас сур'ёзная задача! Неўзабаве Свята мамы. Мы селі за столікі, дабылі карткі і каляровыя алоўкі ды пачалі маляваць. На святочных картках з'явіліся партрэты матуль.

Іх аздаблялі кветкі, матылькі, сэрцайкі, вясёлкі...

— Маю маму завуць Бажэна, — апавядае Зузя Мішчук. — Калі я езджу на роліках, мама заўсёды назірае праз акно, глядзіць ці ўсё добра. Яна гатуе найлепшы ў свеце суп. Часам гуляем з маімі лялькамі. Я хачу, каб мама заўсёды была шчаслівай і здаровай.

Мама Зузі працуе на пагранзаставе ў Дубічах-Царкоўных. Раней там працаваў яе тата. А зараз ён пераехаў служыць у Голдап. Таму Зузя часта думае пра гэты горад.

— Аднойчы мы паехалі цэлай сямейкай да таты ў Голдап, — успамінае дзяўчынка. З падарожжа запамятала высокую вежу, рэчку і вялікія ўсходы. Праўда, лепш каб тата не з'язджаў з хаты на працу...

Кася Юстына Борунь хваліць суп з агурцоў, які гатуе яе мама Ірэна.

У Касі тры сястры і двух братоў. Усе ўсім дапамагаюць. Кася таксама дапамагае матулі прыбіраць у пакоі, падліваць кветкі...

— Я хачу, каб мая мама была заўсёды шчаслівай і здаровай. І каб яна была задаволена з усіх яе сястрычак і братоў.

— Наша матуля хутка будзе ўжо бабусяй, — дадае Кася. — Мая найстарэйшая сястра спадзяецца дзіцятка!

— А ты будзеш цёцяй, так?!

— Тааак, — смяецца дзяўчынка...



У школе ў Арэшкаве разам адзначаць Дзень мамы і Дзень таты. Праўдзе, гэта будзе свята цэлай сямейкі.

ЗОРКА











Мікола Хведаровіч

## Дарагое імя

Свеціць, як сонца,
Ад самай калыскі
Вобраз любімы,
Родны і блізкі.

Маміна імя
Самае лепшае,
Маміна слова
Найдаражэйшае.

Мама! Матуля! —
Чароўнае слова
Песняй ласкавай
Гучыць на ўсіх мовах.

Леанід Пранчак

## Маміна ўсмешка

Хто з нас бегае хутчэй:
Стась,
Лукаш,
Альбо Андрэй?
Гэй, на старт!
Увага, —
Марш!
Абагнаў усіх
Лукаш.
Радасць нам і асалода —
Хуткая прабежка.
Пераможцу ўзнагарода —
Маміна ўсмешка.

Георгій Качахідзе

## Я і мама

Не пайду гуляць я сёння:
Мама хворая мая.
Ёй ніхто на белым свеце
Не паможа лепш, чым я.
Клапачуся я, і мама
Кажа:
— Стала мне лягчэй.
Ад тваёй увагі шчырай
Я папраўлюся хутчэй.

*(легенда з нетраў кітайскай гісторыі)*

# Замагільная армія заваёўвае свет

Амаль кожны адрэзак зямлі хавае ў сабе помнікі мінулага. Найбольш іх у старажытных краінах. Цікава, што частка старажытных скарбаў адкрываецца свету выпадкова і нечакана. Так было з замагільнай тэракотавай арміяй, якая знаходзіцца паўтара кіламетра ад магілы першага кітайскага кесара Цынь Шыхуандзі ў правінцыі Шаньсі. Гэтыя два помнікі неразлучныя, тэракотавае войска ўзнікла якраз пасля смерці кесара ў 210 годзе да нашай эры. Старажытныя кітайцы верылі ў жыццё пасля смерці. Каб захаваць прэстыж у замагільным свеце, людзі будавалі багатыя грабніцы з шыкоўным інтэр'ерам і ўсякімі прыладамі, неабходнымі для жыцця. Кесар Цынь Шыхуандзі пачаў узводзіць сваю грабніцу ўжо ў чатырнаццаць гадоў. У дарослым жыцці праславіўся многімі заваёвамі, дзякуючы якім заслужыў славу і любоў падданых. Таму, каб зберагчы свае зямныя дасягненні, нашчадкі збудавалі яму армію з тэракоты — 7 500 фігур натуральнай велічыні. Замагільная армія кесара расстаўлена на прасторы памерамі 210 метраў даўжыні і 60 метраў шырыні. Пачаткова кесаравая армія стаяла ў падзямельным тунелі, раздзеленым цаглянымі сценкамі і завершаным драўляным дахам. З часам уся канструкцыя правалілася і ўвесь састаў апынуўся пад зямлёй. На сляды помніка трапілі толькі ў 1974 годзе звычайныя сяляне, якія капалі студню.

Нягледзячы на час, — гэта прыблізна аж 22 стагоддзі, — тэракотавае войска ўражвае сваім неразгаданым воблікам. Твары жаўнераў уражваюць правікнёнымі індывідуальнымі рысамі, якія глядзяць наведвальніку проста ў твар. Тут „маршыруюць" стралкі і арбалетнікі з бронзавай зброяй. За імі рухаецца кавалерыя на баявых калясніцах, у канцы сустракаем начальства. Даследчыкі са здзіўленнем сабе самім прыкмецілі атрад комікаў і цыркачоў, якія мелі дбаць пра настрой жаўнераў...

Шмат дэталяў тут яшчэ невысветленых і неразгаданых. Праўдападобна гліняная армія мела сцерагчы кесара і дапамагчы яму трымаць ўладу ў замагільным свеце.

Зараз яна заваёўва свет на іншы, сучасны манер. У хуткім часе пасля адкрыцця помнік, як магніт, стаў прыцягаць турыстаў. Частка тэракотавых жаўнераў вандрue (у якасці музейных экспанатаў) па свеце. А з 1987 года тэракотавае войска знаходзіцца ў спіску сусветнай спадчыны ЮНЕСКА і лічыцца восьмым цудам свету.

**ЗОРКА**



# Музыка з кайфам

## Падляшскі травень

Прырода ўжо прачнулася, прачынаецца таксама лета. Прамяні сонца прабіваюцца праз вясенняе паветра, у якім вісіць ужо запах музычных падзей лета.

Каляндар асноўных цыклічных летніх падзей — музычных ці агульнакультурных — многім з вас вядомы. Лета на Падляшшы пачынаецца ўжо з траўня. Выдатны пачатак даў фестываль „Там по маёвуй росі", арганізаваны Музеем малой айчыны ў Студзіводах, што ў Бельску-Падляшскім. Фестываль спачатку быў маленькі і камерны, але зараз ужо працягваецца ўвесь травень і гэта не толькі сустрэчы ў музеі, але вясенні карнавал, які запрашае да гульні ўсіх бельшчан і жыхароў навакольных вёсак, асабліва ў час новай формы культурна-гістарычнага святкавання — Кірмашу на святога Мікалая.

Аднак майскія дні важным у культурным плане зместам напаўняюць фестывалі царкоўнай музыкі. Гэта ўнікальная з'ява на тэрыторыі Польшчы і, здаецца, увогуле на захад ад праваслаўнай стыхіі, на ўскраіне тэрыторыі ўсходніх славян, якіх тоесніць будуе праваслаўная культура. XXXI Міжнародны фестываль царкоўнай музыкі „Гайнаўка", у ходзе якога 22 хары змагаліся за званне лепшага хору, прайшоў у Беластоку.



Фота Ганны Кандрацюк

Хор гімназіі-каледжа мастацтваў імя І. Ахрэмчыка з Менска з дырыжоркай Марыяй Ліпніцкай

Беластоцкія слухачы хароў вяліся ў зале Падляшскай оперы і філармоніі, дзе прайшоў і гала-канцэрт. Хары з усяго свету не толькі гаварылі на розных мовах, але і на сваіх родных мовах выконвалі царкоўную музыку.

Няшмат кампазіцый напісана на беларускай мове, але з Беларусі заўсёды прыязджаюць хары, якія выконваюць творы сваіх землякоў. Сёлета было некалькі беларускіх калектываў, у тым ліку маладзевы хор „Брэвіс", Хор гімназіі-каледжа мастацтваў імя І. Ахрэмчыка з Менска ці Харавая капэла Беларускага нацыянальнага тэхнічнага ўніверсітэта ў Менску. Аказваецца, што шмат маладых людзей у свабодным часе спявае ў хоры, прытым, як у выпадку гімназістаў, пры нагодзе прысвячаюць час духоўнаму развіццю.

Травень на Падляшшы — месяц культурнай рэфлексіі. У прыемным зялёным антуражы можна свабодна прысесці на царкоўным ці народным канцэрце і задумацца над тым... як прыемна праведсі летні час.

i_basovka@o2.pl

# Вершы Віктара Шведа

## Поўнае шчасце

Янка вітае цётку
Сам на парозе хаты.
Кажа з усмешкай салодкай,
Што надта ўцешыцца тата.

Ён сказаў прад хвілінай,
Што толькі цябе дарагая,
Найдабрэйшай, адзінай
Да шчасця нам не хапае.

## Таленавіты блюзнер

Са школы Ясь ішоў дахаты
І праклінаў страшэнна матам.
Цётка спыталася ідучы:
— Ці вас у школе мата вучаць?

— Не вучаць гэтага, вядома,
І не пачуў яго я дома.
Мата нідзе не навучалі,
Бо да яго мець трэба талент.

# Польска-беларуская крыжаванка № 22

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку № 18:

Голуб, уран, чэрап, дах, аванс, на, шлем, шпінат, шпацыр, піка, бо, клік, анод, шпроты. Вока, вучань, рэха, шпіц, ара, шпік, на, шпак, паліца, вены, ар, камар, но, бот, бляск, роды.

Узнагароды, майкі з лагатыпам „Зоркі", выйгралі **Адам Харкевіч**, **Караліна Каравай**, **Эва Саковіч** з Нараўкі, **Габрыель Кузьмін**, **Вікторыя Артэмюк** з Бельска-Падляшскага, **Моніка Раманюк** з Арэшкава, **Вераніка Пташынская** з Дубін, **Матэвуш Пугацэвіч** з Беластока, **Караліна Кадлубоўская** з Орлі. Віншуем!

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Stóg | Sło-neczko | | Giez | Grab | | Jedwab | Prośba | | |
| | | | | Balet | | | | | |
| | Niebo | | | | | Rożek | | | Atleta |
| Nos | | | | | | | | | |
| | | | | | Cha! | | | | |
| Rój / Piwnica | | | | | | Nil | | | |
| Jak | | | | | | | | | |
| | | | | Stresz-czenie | | | | | |

# Каб не тыя грошы

— Што вы, дзядзька, бармочаце? — запытаў я ў свайго суседа. — Штосьці пра грошы...

А было гэта даўно, зараз пасля вайны. Сусед, якога звалі Гаўрось, меў трох сыноў — здаровых, прыгожых і, відаць, добрых, бо і сам ён быў з добрых людзей. Гаўрось нікому не зрабіў крыўды. З такімі людзьмі жылося прыемна, без сварак, без суседскіх клопатаў.

— А што вам грошы зрабілі? Многа іх маеце, ці недастатак?

— Многа, многа... Кажу вось, каб той, хто іх выдумаў, зусім іх не бачыў!

— Не наракайце на свой лёс, — кажу. — Вось якіх сыноў маеце. Гэта ваша багацце.

— Што ж, калі яны бедныя як касцельная мыш. Калі б ім яшчэ грошы, то міністрамі былі б. А так да чаго дажывеш? Што нас наперадзе чакае? Даўней такія як мы на вёсцы пастухамі былі. А я не хацеў бы, каб мае сыны пасвілі чужую жывёліну.

Аднак мы не даведаліся, кім у жыцці сталі Гаўросевыя сыны, бо ўся іхняя сям'я выехала ў Расею. Пасля вайны наехала да нас шмат агітатараў, якія вербавалі нашых сялян на выезд у Савецкі Саюз. Многа іх выехала. Абяцалі ім залатыя горы і лёгкае жыццё. Некаторыя паверылі агітатарам. Пэўна Гаўросевыя хлопцы міністрамі не сталі, таму што па іх след прапаў. А хто выплыў на шырокія воды, то і мы аб іх пачулі. Мой бацька ў агітацыю не верыў і за тое амаль не паплаціўся галавою. А было гэта вось так. Вечар.Назганялі ўсю хату сялян. Выступае палітрук у чорнай скуранцы, расхвальвае савецкія парадкі. «Мы вам усё дадзім. Кожны атрымае дом накрыты бляхай. Напоім, накормім, адзенем. Грашыма абсыплем». А мой бацька не вытрымаў: «А дзе ж вы столькі дамоў возьмеце і то яшчэ бляхай крытых? Столькі гадоў у вас вайна была. Там зямлянак цэлых не засталося. Хлусня адна!». Агітатар у скуранцы аж пачырванеў ды прасіпеў: «Вораг народа. Трымаць яго і пад сценку. Ну і ўсё». «Дакруціўся», — падумаў бацька, калі вакол яго апынуліся апекуны агітатара ў чорнай скуранцы. Узялі пад рукі, вывелі на панадворак. А там цемрадзь, хоць вока выкалі. Адзін апякун кажа другому: «Вядзі за сарай і зрабі сваё. А я пачакаю». Адвёў ён бацьку за клуню, штурхануў і кажа: «Уцякай і жыві. І больш сюды не прыходзь». А сам, каб было незаўважна, выстраліў некалькі разоў. Такім чынам бацька застаўся ў жывых.

Некаторыя сяляне паслухаліся агітатараў і выехалі ў савецкі рай, а потым самі сябе пракліналі, таму што нішто з абяцанняў не атрымалася. Ну і грошай не бачылі. Калі ў Гайнаўцы сялян грузілі ў таварныя вагоны, забіралі яны ўсё, што нажылі на працягу многіх гадоў. Адзін дзядзька ўзяў з сабой два хамуты, хаця каня ўжо не меў.

— Навошта табе гэтыя хамуты? Там на месцы рускія свае хамуты надзенуць, — сказаў рускі супрацоўнік.

Так і было. Надзелі на іх савецкія хамуты і тады яны зразумелі, куды трапілі. Але ўжо было запозна. Накрыўка зачынілася і... гуляй як табе зайграюць.

Вось што робяць грошы! Каб іх халера пабрала разам з тым, хто іх выдумаў.

**Грыша МАРОЗ**

# Як сусед з суседам

Іаанна ЧАБАН

**Паважанага васьмідзесяцісямігадовага Яна Баравіка з Гаркавіч ведаюць у наваколлі як выдатнага субяседніка. Дзякуючы сваёй прыроднай інтэлігенцыі, незвычайнай памяці і багатым ведам ён можа падзяліцца ўнікальнымі аповедамі пра лёсы людзей, якія калісь засялялі нашу малую бацькаўшчыну.**

Спадар Ян добра знаёмы з часам прысутнай тут сапраўднай шматкультурнасці і шматканфесійнасці. Спрадвеку на Крынскай зямлі разам пражывалі яўрэі, мусульмане, праваслаўныя і каталікі. Цяпер не сустрэнеш у Крынках ні аднаго яўрэя, хіба што прыедзе турыст, наведваючы мясцовы, недагледжаны кіркут. У гэты раз спадар Ян распавёў пра ягоныя кантакты з крынскімі яўрэямі.

— З яўрэямі жылі мы звычайна як сусед з суседам, — пачынае спадар Баравік. — З аднымі сябравалі, другіх менш ведалі. Так як і цяпер. Ці ж мы ведаем хто там, як і з кім жыве на другім канцы вёскі?



**Сёмы клас Публічнай школы імя Э. Ажэшкі ў Крынках, 1937 г.** Фота з сямейнага архіва Любы Гузоўскай, якая жыла пры вул. Гродзенскай у Крынках

Па словах майго суразмоўцы, яўрэі былі разумнай нацыяй, ведалі як жыць, у адрозненні ад нашых, якія экзістуюць па прынцыпе: „Choć boso, ale w ostrogach".

— Яны ў асноўным займаліся гандлем. Ім гэта добра атрымвалася. Збіралі грош да гроша, шанавалі свой заробак і работу. Гандаль, па-мойму, — працягвае спадар Ян, — гэта ашуканства, але яны ім ад стагоддзяў займаліся і надалей займаюцца прадстаўнікі ўсякіх нацый і канфесій па цэлым свеце.

Я ў Крынках перад вайной хадзіў у школу, зімой там кватараваў. Насупраць мяне, па другі бок вуліцы, жыў Піня Борух. Ён часта прыходзіў да маёй гаспадыні Мані Цюхай. Гаспадыня была ўдавой, яе васемнаццацігадовы сын Толік і муж паўміралі ад туберкулёзу. Вельмі добрая яна была, як родная маці. Каб Бог даў ёй Неба. Паміж ёю і Пінем панавалі вельмі цёплыя суадносіны. Аднойчы, гэта было за саветамі, Маніна сястра Яўдоцця захварэла на запаленне лёгкіх. Маня папрасіла Піню, каб дзе дастаў вінаграду хворай. Той адказаў: „Як у Крынкі ёсць, то я табе заўтра прынясу. Каму як каму, але яўрэі табе напэўна дадуць. Яны ведаюць, што ты добрая баба". Назаўтра Піня прынёс абяцаны вінаград.



Цэнтр Крынак, 1940 г.

Я добра ведаў, што ў тагачасных, вялікіх, у большасці яўрэйскіх Крынках, знайшлося толькі двух жыдоў, якія злоўжывалі алкаголем. Гэта былі Мэер і Мэйшка. Яны коньмі гандлявалі. Калі ідзе пра яўрэйскі падыход да гарэлкі, то зараз раскажу адну гісторыю. Мой папа павёз у Крынкі дваццаць тры цэнтнеры аўса на продаж. На рагу цяперашніх вуліц Вузкай і Бэма, тады Пілсудскага, стаяла хата Абрама, па мянушцы Шчур. Яго хата па сёння там стаіць. Мы з папай павезлі туды наш тавар. Авёс купляў сын Шчура — Іцка. Помню яго кішэні выпханыя вялікай колькасцю грошай. Яны проста яму адтуль выпадалі. Купец адлічыў бацьку належную суму. Не ведаю дакладна колькі даў, але было гэтых грошай сапраўды многа. Мы падзякавалі купцу і паехалі далей на вялікі крынскі рынак. Там пажарнае дэпо тады стаяла. Троху пахадзілі мы па рынку і раптам папа да мяне (я быў яшчэ малы) кажуць так: „А чартэ на яго! А што ён зрабіў, на што ён мне столько грошэй даў?". Папа мой быў вельмі рэлігійны, ведаў, што як Шчуру грошай не аддасць, будзе яму за тое вялікі грэх. Пераплачаную суму абавязкова трэба вярнуць. Аформіўшы ўсе справы, ужо вяртаючыся дахаты, зноў заехалі мы да таго Шчура. Папа сселі з воза і клічуць: „Абрам, на, ідзі паглянь сколько твой Іцко даў для мяне грошэй за дваццаць тры мэтры аўса". А той кажа: „Ну, Ігнась, сколько трэба было, только даў. Ён табе ж заплаціў за авёс". Папа яму: „Ну, заплаціў але на, паглянь". Абрам узяў грошы, стаў іх пералічваць, узяўшыся за галаву, закрычаў: „Уй, мамі, а гута гой!" (што ў перакладзе з ідыш абазначае: „Ой, мамачкі, добры хрысціянін"). Ён узяў назад грашовую надбаўку, а нас запрасіў у хату на пачастунак. Невялікая, кругленькая гаспадынька данесла хлеб і селядца, Шчур паставіў на стол бутэльку пейсахоўкі і кажа: „Ну, Ігнаську, пій, каб ты сёння напіўся". Мой папа, які ніколі не злоўжываў алкаголем, запрапанаваў: „Абрам, та ўжэ налій і сабе, та вып'ем па чарачцы". Абрам толькі выкруціўся: „Э... Знаеш, сёння чацвер, у мяне інтэрэс, я не магу піць". Так і падзякавалі мы за гасціну, замнога з яе не скарыстаўшы.

Апошні раз спадар Ян бачыў крынскіх яўрэяў у дзень ліквідацыі мясцовага гета ў студзені 1943 года.

— Пад вечар наш гаркавіцкі солтыс пад прыказам немцаў выклікаў каля дваццаці гаспадароў, у тым ліку і мяне. Нам трэба было запрагаць коней і ехаць фурманкамі ў Крынкі. Тут, дзе цяпер блёкі пабудавалі, нам трэба было затрымацца і цэлую ноч чакаць.Назганялі фурманоў з усіх вёсак. На другі дзень, як толькі стала развідняцца, нас усіх немцы загналі на вуліцу Гарбарскую. Мы па чарзе пад'язджалі да ўязной брамы ў гета. Там стаялі гэтыя каты і грузілі яўрэяў на вазы. Далей мы ехалі на Гродзенскую вуліцу ў напрамку Індуры.

На маім возе ехала двое старых яўрэяў, якіх цэлае багацце састаўлялі клунак і валізачка. Больш нічога не мелі. Я не хацеў туды нікога везці, але ж жаўнеры ў нямецкіх мундзірах гналі. Даязджаючы да Макаравіч нейкія маладыя яўрэі спрабавалі ўцячы, ратавацца. Там быў лясок пана Хрусціцкага і яны туды пабеглі. На жаль, іх дагналі, прывялі назад і моцна збілі. Заехалі мы ў Індуру. Ужо цямнела. Там мы ўехалі ў гета, дзе за брамай стаялі каты. Усіх увахоядзячых за браму яўрэяў моцна білі палкамі і вырывалі іхнія клункі ды адразу кідалі іх на гурбу, якая размерам напаміняла стадолу. Агромная гара зрабілася з клункаў. На нас каты крычалі „шнэль, шнэль". Мы паварочвалі налева і ехалі назад. І столькі гэтага ўсяго было...

Дахаты я вярнуўся ноччу. На другі дзень, калі выпрагаў кабылу, пабачыў у возе сталовы нож. Ён напэўна выпаў з клунка. От і ўсё, што па людзях засталося. Потым я даведаўся пра лёс крынскага доктара Ліхтэнштэйна, якога таксама вывезлі на пагібель гаркавіцкія фурманы. Ён ужо ў Індуры атруціў жонку, сваё малое дзіця і на канец сам атруціўся.

Усіх крынскіх яўрэяў з Індурскага гета перавезлі ў Калбасіно. Там чакаў іх апошні транспарт у печы Трэблінкі.

То быў страх якога не сказаць, ні апісаць. Страх нішчэння чалавека другім чалавекам.

# Вершы Андрэя СЦЕПАНЮКА



**дзяўчыне з плошчы**

ты не плач дзяўчынка
не плач
яны слёз тваіх не зразумеюць

але боль твой будзе як сталь
ад яго яны ашалеюць
*19 снежня 2010 года*

* * *

*Надзі*
*верш другі*
гады не
ходзяць
яны затрымаліся
у калюжах
на бельскай вуліцы
Казіміра
святога ці караля

яна вядзе
сваім успамінам
праз горад
на могілкі

там маці з бацькам
пачынаюць вячэраць

з-за акна пах
свежых кветак
або лякарстваў
і кароткая
ледзь чутная
размова

трэба вяртацца

**нуль восем**
*Барскаму*

як проста павярнуць
час
хопіць толькі заплюшчыць
вочы
і загуляць у карнавальным танцы
паваротаў

як бенджамін батан ставацца
з кожнай хвілінай
маладзейшым
аж да нулявой гадзіны
свайго нараджэння

аднак у восем
пачуюцца словы маці
як дакор

навошта гэта сынок

навошта ты выязджаў
у іншы свет

навошта ты стаў
такім вядомым

навошта ты пачынаў
пісаць вершы

навошта табе гэтыя
лодзі варшавы мінскі і лонданы

навошта табе толькі пытанняў
на якія дагэтуль
не знайшоў адказаў

навошта табе гэта
адкажы

я хацеў пайсці каб вярнуцца
мама

каб у люстэрку ўбачыць
твой загарэлы твар
і ўсміхнуцца

пачуць бацькавыя словы
і паверыць што ішоўшы
варшаўскай маршалкоўскай
я і так дайду да бандароўскіх лугоў

крыкнуць каб пачакалі
сябры маладосці

глянуць за сябе
і не ўбачыць нічога
толькі цені тваіх рук

не верыць што можа
быць інакш
што сляды маіх крокаў
залье вада
а чорныя сокі зямлі
спарахнеюць

марыць аб тым
што чалавечы розум
прыдумае эліксір вечнага
хараства

кахаць каханнем забойцы
маўчаць маўчаннем абарыгенаў

быць сабою сярод чужых
быць чужым сярод сваіх

быць такім як у нулявую гадзіну
свайго нараджэння

а ў восем
не пытаць
навошта

* * *

учора быў табе
патрэбны
каб нарубаць дроў
і падкінуць
у печы
каб паслухаць
аб тваіх хваробах
і памаўчаць

а сёння выхінула
сонца
і твае валасы
паяснелі
з твару сышлі
мрочныя цені
а ў вачах паявіліся
іскрынкі шаленства

ты кінула востры
позірк
у мой куток
і я падхіліўшы хвост
уцёк
як заўсёды

прысеў на хвіліну
на паркавай лавачцы
і напісаў чарговы верш
„учора быў табе патрэбны"

* * *

памятай бацька
быў
добрым чалавекам

трыццаць (больш)
гадоў
мэмэнто

быць
чалавекам

памятаць
верыць
трываць

памятай бацька
быў

* * *

пасля пераходу
мяжы
няма ўжо нават
размовы

ёсць толькі самотнасць
і смерць

чужыя сабе
бацька з сынам
кожны паасобку
глядзяць у вокны
якія выходзяць
на панадворак

свята ўваскрасення
з радаснымі тварамі
гэта іншая планета

у вачах толькі далечыня
таго што небачанае
і непрадчувальнае

пачуцці засталіся звонку

* * *

здараецца
ідзеш
як у цемру
а вочы
гавораць
ідзі

колер чорных
экранаў
сціхае
не паражае
чорным сонцам

здараецца
адвакат не бароніць
зняволенага
а ўцякае
у нябыт

заўсёды здараецца
што недапітая гарэлка
дапіваецца
а крыўда забытая
не забываецца

здаўна
здараецца
здарэнне
якое ўжо даўно
здарылася

* * *

чорная
чорная
чорнасцю чорная
чырвань
яблык з чорным

месцам пасля выхаду
чарвякоў

чорная чарнейшая
самая чорная
зямля
накінутая на плечы
і рукі і ногі

чорнасцю чорная
яркасць

* * *

чорнабеласць
чорнашэрасць
чорначырвонасць

колеры

а блакіт
у небе

а трава
у зялёнасці

а сінясць
у моры
а марасць
у сінечы

колеры

а вочы твае
фата-маргана
вясёлкі

**тры словы**

слова першае
непачутае

слова другое
забытае

слова трэцяе
неадгаданае
запісанае крывёю
на пергаменце

тры словы

**дрэва**

абмярцвелае
забытае
зганьбаванае
з нясвежым пахам
з вуснаў

а лісточкі яшчэ
пышнеюць
а дзетачкі падбягаюць
і гуляюць у хованачкі

пражэртае чарвякамі
спарахнелае
са звярынскім
воблікам сукоў-вачэй

а верабейчыкі прысядаюць
і цірлікаюць
ласкальна-любоўныя
песенькі

а ў час буры
адвернецца
і не заўважыць
вострай атакі ветру

і ўпадзе
і зваліцца
і на лавачку
і маляваную ў чырвані
і грымне на маладзенькіх
якія хаваюцца ад дожджыку

і заб'е іх

Тэкст і фота Сяргея ЧЫГРЫНА

# Дні памяці мучаніцкага подзвігу апостальскага грэка-каталіцкага экзарха Беларусі Антона Неманцэвіча

У мікрараёне Альбярцін горада Слоніма ў касцёле Каралевы Міра, а таксама на Альбярцінскіх могілках 8 траўня адбыліся Дні памяці мучаніцкага подзвігу апостальскага грэка-каталіцкага экзарха Беларусі Антона Неманцэвіча і ягонай паствы на тэрыторыі Палесся і Гродзеншчыны. У малітоўным успаміне прыняў удзел сакратар Кангрэгацыі па справах Усходніх Касцёлаў арцыбіскуп Кірыл Васіль.



Малітва аб'яднала два асноўныя месцы: Слонім, у якога цяперашнім прадмесці Альбярціне пачаўся мучаніцкі подзвіг беларускага экзарха Антона Неманцэвіча, і Івацэвічы (на тэрыторыі Івацэвіцкага раёна знаходзіліся вёскі парафіі Баброўічы, жыхары якіх былі спалены фашыстамі).

Антон Неманцэвіч (1893-1943) — каталіцкі святар усходняга абраду, манах-езуіт, першы экзарх Беларускага Экзархата Грэка-Каталіцкай Царквы, доктар тэалогіі і права, рэлігійны і культурна-грамадскі дзеяч, рэдактар, выдавец, педагог і публіцыст. Адзін з ініцыятараў і творцаў беларускага ўніяцкага руху Заходняй Беларусі.

Паходзіў з сям'і беларусаў-перасяленцаў з Сакольшчыны (Беласточчына). Бацькі аддалі яго ў прыватную каталіцкую гімназію св. Кацярыны ў Пецярбургу.



Скончыў Віленскую каталіцкую духоўную семінарыю. Высвячаны на святара ў верасні 1915 года. У тым самым годзе далучыўся да беларускага руху. Скончыў Петраградскую каталіцкую духоўную акадэмію, стаў вікарыем парафіяльнага касцёла св. Кацярыны ў Колпіне пад Петраградам. З 1918 года нёс душпастырскае служэнне ў Маскве, дзе заангажаваўся ў працу найперш сярод дзяцей і моладзі.

Праследаваўся бальшавікамі за рэлігійную дзейнасць. Дзякуючы абмену палітвязнямі ў 1925 годзе перададзены Польшчы.

Па накіраванні мітрапаліта Эдварда Ропа паехаў у Рым на тэалагічныя студыі ў Папскім усходнім інстытуце, дзе стаў доктарам тэалогіі. Навуковую дысертацыю напісаў на тэму „Бальшавізм і выхаванне. Сучаснае бальшавіцкае заканадаўства ў Расеі адносна рэлігійнага і маральнага выхавання моладзі ў параўнанні з правам Божым, прыродным і аб'яўленым". Абарона дысертацыі адбылася 2 ліпеня 1927 года. Затым з'яўляўся прафесарам у Люблінскім місійным інстытуце і адначасова працаваў як катэхет у школах. У 1928-1929 выкладаў параўнальную тэалогію ў Люблінскім каталіцкім універсітэце.

У 1929 годзе ўступіў у ордэн езуітаў; прыняў усходні абрад. Парах грэка-каталіцкай царквы ў мястэчку Альбярцін пад Слонімам (цяпер мікрараён горада), з 1933 — Сынкавіцкай царквы Зэльвенскага раёна.

У 1932-1937 гадах быў рэдактарам і выдаўцом беларускага рэлігійнага часопіса „Да злучэння". У 1938 годзе працягваў выдаваць забаронены часопіс „Да злучэння" ў Варшаве пад назваю „Злучэнне".

З 1940 года ўзначаліў Беларускі Экзархат Грэка-Каталіцкай Царквы (узведзены ў сан экзарха 17 кастрычніка 1940 года). За ім беларуская мова ўпершыню ў гісторыі Царквы ў Беларусі стала афіцыйнай у справаводстве і ў царкоўным жыцці. Заснаваў „Апостальства малітвы за Беларусь".

Арыштаваны гестапа 4 ліпеня 1942 года ў Альбярціне. Доўгі час лічылася, што ён памёр у Берліне ў турме (згодна польскіх крыніц). Аднак дзякуючы апошнім знаходкам у беларускіх архівах выяўлена, што ён памёр, знясілены турэмнымі ўмовамі ў Мінскай турме СД ад сардэчна-сасудзістай недастатковасці 6 студзеня 1943 года (немцы ў афіцыйнай даведцы напісалі, што памёр ад тыфу, на які святар меў імунітэт, бо перахварэў ім у дзяцінстве). Пахаваны 9 студзеня 1943 г. на нямецкіх могілках у Мінску святаром мясцовай праваслаўнай царквы

Спачатку арцыбіскуп Кірыл Васіль наведаў касцёл, які знаходзіцца у мікраёне Альбярцін горада Слоніма. Каля крыжа, пастаўленага ў гонар беларускіх грэка-католікаў, усе прысутныя маліліся за загінулых падчас Другой сусветнай вайны. Яны таксама памаліліся за грэка-каталіцкага экзарха Антона Неманцэвіча.

Пасля гэтага дэлегацыя наведала касцёл св. Андрэя ў Слоніме, дзе прысутныя ўзнесілі свае малітвы перад абразом Жыровіцкай Божай Маці.




## http://aacenka.by

Педагагічная навука адрозніваецца ад іншых мноствам методык выкладання. Нягледзячы на тое, што бываюць яны цалкам процілеглыя, тым не менш могуць яны карыстацца поспехам і даваць плён. Гэта, дарэчы, выклікае ў некаторых вялікі недавер да педагогікі як да навукі, маўляў, не можа быць, каб у навуцы магла суіснаваць такая супрацьлеглась.

Не так даўно ў інтэрнэце з'явіўся сайт, які, як сёння модна казаць, прадстаўляецца інавацыйным педагагічным праектам. Ён мае назву „Актыўная ацэнка" і месціцца па адрасе **http://aacenka.by**. „Актыўная Ацэнка (Formative Assessment) — інавацыйная сістэма навучання, што фактычна злучае розныя актыўныя метады ў адзіную сістэму працы. Актыўная Ацэнка — методыка навучання, якая дапамагае настаўнікам добра вучыць, а вучням паспяхова вучыцца", — так прэзентуюць сайт яго ідэйныя натхняльнікі. Цяжка сказаць, наколькі сапраўды гэтая методыка дазваляе вучням дасягнуць вялікіх поспехаў, але, падаецца, варта з ёй крыху пазнаёміцца, тым больш, не так многа ў сеціве педагагічных сайтаў цалкам беларускамоўных.

Першая, яна ж галоўная, старонка сайта выглядае не зусім звыкла. Тут няма традыцыйнага дзялення на дзве альбо тры часткі. Пры гэтым выйсці на іншыя старонкі падаюцца двойчы — спачатку ўверсе выяўлення, а потым ніжэй з невялікім анонсам пра іх. Тут таксама размешчаны некаторыя матэрыялы з іншых рубрык — перш за ўсё прэзентуючыя методыку артыкулы і інтэрв'ю.

Больш падрабязна пра Актыўную ацэнку распавядаецца на старонцы „Пра АА". Тут цікаўны карыстальнік знойдзе не толькі асобныя артыкулы, але і кнігі на даную тэму на розных мовах — у першую чаргу на польскай і беларускай. Дарэчы, у Польшчы найбольш актыўным папулярызатарам Актыўнай ацэнкі з'яўляецца даследчыца Данута Стэрна. У сваёй кнізе, што прадстаўлена на сайце, яна распавядае аб досведзе польскіх настаўнікаў па розных прадметах ад усіх відаў школ, што працуюць па гэтай сістэме.

На той жа старонцы месціцца і спасылка на іншыя інтэрнэт-рэсурсы, што тычацца Актыўнай ацэнкі.

Практычную каштоўнасць мае рубрыка „Настаўнікам". У ёй знаходзіцца падзеленыя па прадметным прынцыпе прыклады выкладання асобных прадметаў. Сярод іх — беларуская мова і літаратура, выхаваўчая праца, замежныя мовы, фізічнае выхаванне.

Для таго, каб пазнаёміць бацькоў вучняў з Актыўнай ацэнкай, на сайце створана рубрыка „Бацькам". Там даводзіцца пра тое, што кожны вучань будзе лепей вучыцца, калі будзе ведаць, навошта ён вучыць нейкую канкрэтную тэму. „Актыўная ацэнка патрабуе, каб настаўнік агучыў вучням мэту ўрока, пры гэтым на мове, зразумелай для вучня", — такі ледзь не адзін з галоўных пастулатаў гэтай методыкі. З гэтага вынікае, што калі хлопец ці дзяўчынка прыходзіць дадому са школы, больш правільна пытацца не „што ты атрымаў?", а „чаму ты навучыўся?".

Пра тое, як папулярызуецца цяпер Актыўная ацэнка, можна было б даведацца з рубрыкі „У свеце". Там месціцца спасылка на сайт Formative Assessment. Праўда, апошні артыкул у ёй датуецца студзенем 2010 года.

Ну а калі нешта незразумела з пададзенага на сайце беларускай Актыўнай ацэнкі, то яго стваральнікі прапануюць звярнуцца да экспертаў — той жа Дануты Стэрны альбо выкладчыка з Беларусі Мікалая Запрудскага.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## Скарбы БЕЛАРУСІ

### Косаўскі палац

У Францыі ёсць Парыж і Брэст, і ў Беларусі ёсць аднайменныя вёска і горад. У Еўропе ёсць цэлы край Косава і ў Беларусі мясцовасць у Івацэвіцкім раёне з такой назвай, знакамітая тым, што паблізу яе жыў Тадэвуш Касцюшка, дзе зараз створаны сядзібна-музейны комплекс. Наша Косава, у адрозненне ад еўрапейскага — зусім не гарачая кропка, а спакойная мясціна. Уласна беларускае Косава знакамітае сваім палацам Пуслоўскіх, які называюць таксама замкам, зважаючы на яго архітэктурныя асаблівасці. Гадоў дзесяць таму мы прыязджалі ў гэтую мясціну з беластоцкімі сябрамі і лазілі па руінах у густым кустоўі, закінутых і засмечаных сутарэннях, а наўкола былі папялішчы ад вогнішчаў. З таго часу сітуацыя выправілася ў лепшы бок, Косаўскі старадаўні замак зараз у цэнтры ўвагі дзяржаўных структур.

Калі быць дакладным геаграфічна, то Косаўскі палац стаіць не ў мястэчку, а на ўзлеску, непадалёк ад той самай касцюшкаўскай сядзібы ў Мерачоўшчыне. З тэрыторыі адроджанага фальварка на тэрасавым узвышшы зараз віднеюцца пабеленыя сцены гэтага палаца з вежачкамі.

Замак-палац быў пабудаваны графам Казімірам і яго сынам Вандалінам Пуслоўскімі ў Мерачоўшчыне ў 1838 годзе. Тады тут быў сапраўды прыгожы паркавы краявід. Архітэктар з Варшавы Францішак Яшчалд замяніў распаўсюджаны на той час ансамблевы класіцызм матывамі гатычнай старажытнасці. Некаторыя навукоўцы звяртаюць увагу на падабенства Косаўскага палаца з замкам Гогенцолернаў у Камянцы-Зембавецкім, што ў Сілезіі. Інтэр'еры палаца ў стылі сярэднявечнай готыкі выканалі архітэктар Уладзіслаў Марконі і дэкаратар Аляксандр Жмурка. У самым палацы былі дзесяткі памяшканняў, асаблівым шыкам служыла зала, у якой падлога была з таўшчэзнага шкла, знізу пад якім размяшчаўся вялізны акварыум з дзівоснымі прадстаўнікамі воднага свету. Існавала і традыцыйная для нашых зямель легенда пра падземны ход — нібыта ён меў працягласць ажно 25 кіламетраў і злучаў замак з палацам Сапегаў у Ружанах.

Пуслоўскія невыпадкова «прывязваліся» да родавага гнязда Касцюшкі — кіраўнік паўстання 1794 года быў ім блізкі духова — гэта пакрэслівае той факт, што Пуслоўскія бралі ўдзел ва ўсіх вызвольных чынах ад Расійскай імперыі. Пасля паразы апошняга з іх у 1864 годзе палац быў канфіскаваны і перайшоў да тагачаснай маскоўскай алігархіі — ім валодалі купец Аляксандраў, потым князі Трубяцкія і Альдэнбургскія.

Моцна пацярпеў палац у час Першай сусветнай вайны, аднак потым была здзейснена рэстаўрацыя і ў ім засядала адміністрацыя староства Косаўскага павета. Да прыходу бальшавікоў у 1939 годзе ў некаторых залах былі цэлыя печы і каміны. Да пачатку нямецка-савецкай вайны ў будынку размяшчаліся чырвонаармейцы. Калі прыйшлі нямецкія фашысты, яны ствараці тут гета. А яшчэ пазней ужо пусты палац быў падпалены савецкімі партызанамі. Гэты бессэнсоўны акт знішчэння доўгі час прыпісвалі гітлераўцам. Пасля вайны савецкая адміністрацыя хацела прыстасаваць збудаванне пад дзіцячы дом, але на гэта забракла сродкаў. Так палац і стаяў у занядбанні да нядаўняга часу.

Зараз дзікае кустоўе і хмызняк наўкола ўнікальнага гістарычнага аб'екта павысякалі, аднаўляюцца кроквы і дах. У перспектыве тут павінен паўстаць гатэльна-турыстычны комплекс. Калі краіну не захлысне чарговы фінансавы абвал, праз гадоў пяць можна асцярожна спадзявацца на адраджэнне былога архітэктурнага харастві.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

Тэкст і фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА

# Конкурс маладых акцёраў

**27 красавіка г.г. у будынку Галоўнага праўлення БГКТ у Беластоку адбыўся 37-мы конкурс тэатральных калектываў для прадшколляў, пачатковых школ і гімназій. Прынялі ў ім удзел маладыя акцёры з Бельска-Падляшскага, Дубіч-Царкоўных, Орлі і Рыбалаў. На сцэне выступілі сем калектываў. Усе яны падрыхтавалі шмат рэквізітаў і адметна паказалі сваё майстэрства. Дзеці былі пераапранутыя за лісу, мядзведзя, зайца, пеўніка, вожыка, ваўка, бусла, жаб.**




Вучні з Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Бельску-Падляшскім.



Калектыў з Вясковага дома культуры ў Рыбалах

Камісія ў складзе: Іаанна Стэльмашук (старшыня), Яніна Плютовіч і д-р Васіль Сегень ацэньвала калектывы ў дзвюх катэгорыях: тэатр жывога слова і лялечны тэатр. У першай катэгорыі Гран-пры атрымаў тэатральны калектыў з Комплексу школ у Дубічах-Царкоўных за вучнёўскі аўтарскі спектакль „Каб чалавек быў чалавекам”.

Два раўнапраўныя першыя месцы занялі дзеці з Непублічнага прадшколля № 1 імя св. дзіцяткі Гаўрыіла ў Бельску-Падляшскім і вучні з Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Бельску-Падляшскім. Першыя з іх выступілі з „Казкай пра лісу-хітруху і добрых сяброў — мядзведзя, зайца і пеўніка” паводле Станіслава Шушкевіча, а другія — з пастаноўкай „Пра лісіцу-хітруху і ваўка-дурака” (сцэнарый Ірэны Кандрацюк).

Два другія раўнапраўныя месцы занялі вучні КШ у Бельску-Падляшскім за пастаноўку „Казка пра смелага вожыка” і вучні КШ у Орлі за спектакль „У лесе”. Трэцяе месца журы прысудзіла тэатральнаму калектыву з КШ у Дубічах-Царкоўных за спектакль „У лясным гушчары”.

У катэгорыі лялечных тэатраў першае месца заняў калектыў з Вясковага дома культуры ў Рыбалах (Заблудаўская гміна) за пастаноўку „Жабкі” (паводле Уладзіміра Караткевіча).

Узнагароджаны былі таксама настаўнікі, якія рыхтавалі пастаноўкі: Валянціна Бужынская, Марта Зінкевіч, Вера Флёрчук, Анэта Артэмюк, Аліна Сахарэвіч, Анэта Леанюк і Ірэна Кандрацюк — усе з Бельска-Падляшскага, Галіна Трашчотка і Іаланта Соха з Дубіч-Царкоўных, Ала Зінкевіч і Марыя Лемеш з Орлі ды Лідзія Мартынюк — загадчыца ВДК у Рыбалах.

Андрэй ГАЎРЫЛЮК

# Выстава ікон

У Ольштыне адкрыта выстава ста ікон з XVI-XIX стагоддзяў. Гэтая калекцыя з'яўляецца адной з найбольш каштоўных у фондах Музея Варміі і Мазураў у Ольштыне. Яна ўнікальная ў сусветным маштабе. Іконы паходзяць са стараверскага манастыра Збавіцеля і Святой Тройцы ў Войнаве на Мазурах.

Арганізатары выставы падкрэсліваюць, што іконы належаць да культурнай традыцыі даўняй Усходняй Прусіі ды цяперашніх Варміі і Мазураў. Старaверы адлучыліся ад Праваслаўнай царквы пасля расколу ў XVII стагоддзі, і прыбылі сюды з Расіі ў 1847 годзе. Прывезлі з сабою іконы — творы высокай мастацкай вартасці. Гэтая калекцыя паходзіць з вcase манастыра, з якога іконы — пасля смерці апошняй манашкі ў 1970-х гадах — былі пераняты музеем.

Ікона з'яўляецца мастацкім запісам тэалагічнага зместу. Пяром з'яўляецца пэндзаль, а жывапісец пісьменнікам, які колерамі апісвае тайны веры, — сказаў айцец Раман Плонскі, вікарый праваслаўнага прыхода ў Ольштыне.

Гісторыя іконы ўключае легенду пра армянскага цара Абгара, хворага на праказу і атрымаўшага па гэтай прычыне мянушку Чорны. Даведаўшыся пра здзяйсненне Ісусам Хрыстом аздараўленняў, ён паслаў свайго прыдворнага жывапісца з задачай намаляваць аблічча Хрыста; уладар быў пераканaны, што як гляне на гэта з вераю — будзе вылечаны. Легенда падае, што мастак не мог здзейсніць сваёй задачы, бо калі толькі намаляваў нейкі штрых, ён адразу знікаў. Ісус, пабачыўшы руплівасць мастака, сам адбіў сваё аблічча на палатне. Цар Абгар, атрымаўшы выяву, выздаравеў, а ікона апынулася ў Эдэсе, адкуль была перанесена ў Канстанцінопаль, дзе пасля 1204 года прапала. Іншая легенда гаворыць, што першую ікону з выявай Багародзіцы напісаў евангеліст Лука.

Найбольш вядомай з паказаных на ольштынскай выставе ікон з'яўляецца Уладзімірская ікона Багародзіцы. Выставу ў ольштынскім замку можна аглядаць штодзённа апрача панядзелкаў. Усім прысутным на вернісажы, які адбыўся 9 мая г.г., калекцыя падабалася.

# АБ'ЯВЫ



# Адгаданка

1. бацька Хама, 2. Мілаш Абрэнавіч або Нікола Пашыч, 3. мангольская пустыня, 4. прамавугольны кавалак тканіны для прыкрыцця шыі або галавы, 5. вупраж пад коннікам, 6. прыстасаванне для кіравання рухам веласіпеда, 7. у чайніку, 8. акустычнае мастацтва, 9. сын Дэдала, 10. „белае” збудаванне ў Камянцы, 11. вялікі гармонік.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — курдская пагаворка. **(ш)**

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | | 2 | | | | 3 | |
| | | | | | 4 | | | |
| | 5 | | | | 6 | | | 7 |
| | | 8 | 9 | | | 10 | | 11 |
| | | | | | | | | |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 17 нумара**
Бура, вежа, мяса, папас, сіта.
Рашэнне:
**Сірата сама сабе пуп вяжа**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Аляксандру Дабчынскаму** і **Лукашу Пацэвічу** з Беластока.

# 27.05 — 02.06

**(22.03. — 20.04.)** У апошнія дні мая будзеш схільны да спрэчак і агрэсіўных выказванняў; трымай нервы ў руках, а язык за зубамі. Лёс у гэтым тыдні будзе табе вельмі прыхільны ва ўсім, калі не будзеш сабе мяшаць і прабаваць пазбегнуць добрай падзеі.

**(21.04. — 21.05.)** Лепшыя прапановы на працы. Тыдзень поўны прыгод. Атрымаеш адказ на важнае пытанне, зможаш лёгка ўплываць на іншых. Разнабаковы і здаровы розум паможа вырашыць усе праблемы і складанасці. Пазбудзешся таго, што доўга цябе скоўвала. У нядзелю адмоўся ад алкаголю.

**(22.05. — 22.06.)** Прыйдуць табе ў галаву геніяльныя задумы. Не будзе для цябе невырашальнай праблемы. Можаш разлічваць на дапамогу блізкіх. Раманы! Беражы галаву ў сераду. У чацвер старайся быць нейтральным. Насі чырвонае для бурнай дзейнасці, хуткасці думак і энергіі.

**(23.06. — 23.07.)** Тыдзень на рэдкасць удалы, асабліва калі паварушышся. Спачатку тыдня сітуацыя стабільная і спакойная, што можа цябе расслабіць. Пасля будзе дынамічна; лаві момант і зварухні сваё жыццё ў лепшы бок. Добры час для сустрэч і калектыўных мерапрыемстваў. Можаш знайсці добры шлях да далейшага руху.

**(24.07. — 23.08.)** Небанальныя ідэі. Прытрапяцца табе геніяльныя задумы вырашэння праблем і пераможаш кожную перашкоду. Ды падзеі, здавалася б, зусім не звязаныя з тваёй асобай, могуць прынесці ў тваё жыццё страты і неразбярыху. Найважнейшыя справы і выступленні перанясі на пасля.

**(24.08. — 23.09.)** З 26 да 30.05. — знакаміты час на ўвядзенне ў жыццё нават найбольш шалёных задум. Пахваlішся інтэлектам і фантазіяй. Ды ў апошнія дні мая будзеш вельмі сварлівым. Твае сакрэты будуць выяўлены. Калі ў аўторак да поўдня папярхнешся, п'ючы ваду — гэта абяцае табе новых ворагаў. У суботу адкрыюцца табе новыя магчымасці.

**(24.09. — 23.10.)** Возьмеш усё ў свае рукі ў сямейных справах. У бізнесе вельмі ўдалыя дагаворы, аперацыі і здзелкі, прэміі і павышэнні. Найлепш удалыя падарожжы і знаёмствы — у панядзелак. У аўторак будуць на цябе брахаць завіснікі. У сераду не рабі пластычных аперацый. Глядзі пад ногі ў пятніцу.

**(24.10. — 22.11.)** 29-31.05. — час няўпэўненасці і трывогі; старайся трымаць эмоцыі ў руках і не паддавайся боязі. Новыя ідэі яшчэ не будуць рэалізавацца, дык будзеш у не надта добрым настроі. Жыццёвыя клопаты цябе стомяць і надакучаць. Хоць канец мая — для цябе час плёну!

**(23.11. — 22.12.)** 28-30.05. асоба зайздросная за твае поспехі і варожа ставячаяся да цябе адкрыта выступіць супраць цябе. Рыхтуйся да цяжкага і непрыемнага бою! Сустрэчы з новымі людзьмі і сюрпрызы (адны прыемныя, другія проста гідкія!). Праяві гнуткасць, умей ісці на кампраміс. Затое ў фінансах маеш шанц адкрунуць тое, пра што кажуць, што ўжо прагарэла.

**(23.12. — 20.01.)** Не вырашай важных фінансавых спраў, каб цябе хто не ашукаў. Магчымыя напрыемнасці, звязаныя з вадой (у вадаёмах, у хаце). Добры час набыць аўтамабіль. Не канфліктуй з начальствам у сераду. У чацвер пільнуй папер. Важныя справы перакладзі з пятніцы.

**(21.01. — 19.02.)** 26-30.05. гарантуюцца табе поспехі на працы, удалыя інатрэсы і многа!!! грошай. Абдумвай свае рашэнні. Правільны выбар прынясе табе поспех так асабісты, як і ў справах. Ярка пачуцці выбухнуць пад канец тыдня, нават у «старой» пары.

**(20.02. — 21.03.)** Важнае адтэрмінуй на наступны тыдзень. У панядзелак ахопіць цябе ленасць, дзень можа аказацца стратным для твайго здароўя. У аўторак праблемы з роднымі і сябрамі выклічуць дадатковую напругу. У сераду не спускай вачэй з дзяцей. У чацвер пільнуйся куды едзеш. У пятніцу разлічвай на падзяку. У суботу сустракайся з блізкімі і сябрамі.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.iig.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.iig.pl*
*Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.*
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Мірослава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
Termin przyjmowania wpłat do 5-go dnia każdego miesiąca poprzedzającego okres rozpoczęcia prenumeraty.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „RUCH” i „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Cena prenumeraty kwartalnej: I kwartał — 32,5 zł., II kwartał — 32,5 zł., III kwartał — 35,0 zł., IV kwartał — 32,5 zł., rocznej — 132,5 zł.
**Prenumerata z wysyłką za granicę**
Wpłaty przyjmuje „RUCH” S.A. ul. Annopol 17a, 03-236 Warszawa; telefony: +48(22) 69-36-775, +48(22) 69-36-782, +48(22) 69-36-718; www.ruch.pol.pl
**Prenumerata w redakcji**
Planowana ilość numerów „Niwy” w 2012 roku — 53.
**Przesyłka zwykła:** Cena 1 egz. wraz z wysyłką w kraju wynosi 4,2 zł.
**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 300 egz.

Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

# Ляснянскі манастыр



**Калісь-калісь мая мама была згадала мне пра паломніцтва ў Лясную. Быў гэта такі час, калі той тапонім быў мне цалкам нейтральны. Аднак шмат часу пазней, шмат часу пасля мамінай смерці, стаў я разглядацца за той Лясной, мяркуючы, што яна павінна быць недзе недалёка, мо ў Пушчы, дзе цячэ рэчка гэтай жа назвы. Аднак такой мясцовасці тут не ўдалося мне знайсці, затое такі тапонім выявіўся нашмат далей — аж за Бугам, на паўднёвых акраінах Падляшша. Да таго ж аказалася, што там менавіта ёсць санктуарый, куды здаўна кіраваліся паломніцтвы. Паломніцтвы тыя кіраваліся з тых напрамкаў, з якіх прыходзіла камандаванне мясцовымі рэлігійнымі справамі, бо Лясная стала такім кавалкам рэлігійнай рэчаіснасці, за ўладанне якой ухапіліся іерархі і іх заплечнікі.**

Партал Ляснянскага санктуарыя: Historia „przejasnego obrazu Najświętszej Maryi Panny” jest niezmiernie ciekawa i pełna przedziwnych wydarzeń. Zaczyna się od roku 1683, kiedy to dnia 26 września dwaj chłopcy pasący bydło, 9-letni Aleksander Stalmaszczuk i 10-letni Miron Makaruk, znaleźli jaśniejący blaskiem wizerunek na drzewie dzikiej gruszy. Jej kamienny wizerunek przywieziono do Bukowic, których właściciel zdecydował o wzniesieniu w miejscu objawienia drewnianego kościoła rzymskokatolickiego. Powstał on w 1686 roku i przyozdobiony on został znalezionym „obrazem”. W roku 1700 biskup łucki i brzeski Franciszek Prażmowski po przebadaniu świadków uznał niezwykłość łask i zezwolił na publiczny kult. W 1716 r. książę Karol Stanisław Radziwiłł, kanclerz Wielkiego Księstwa Litewskiego, ufundował złote korony. Wieść o niezwykłym pojawieniu się wizerunku zaczęła zataczać coraz szersze kręgi i ściągać ludzi nawet z odległych stron. Rozwój kultu spowodował, że w 1731 r. przystąpiono w Leśnej do budowy nowego kościoła. Ukończono ją w 1758 r. Jeszcze w czasie jej trwania do Leśnej przybyli paulini, którym powierzono parafię leśniańską i opiekę nad cudownym obrazem. W XVIII w. miejscowość była już znana w Koronie Polskiej jako ośrodek kultu maryjnego. W okresie rozbiorów i wojen napoleońskich sanktuarium dzieliło los narodu. Klasztor i kościół były niszczone i plądrowane. Pauliński konwent nie przestał funkcjonować tylko dzięki pomocy okolicznych ziemian. W okresie powstania styczniowego Leśna stanowiła jedno z ogniw ruchu narodowego na Podlasiu. Paulini wspierali powstańców władze carskie w odwecie przejęły sanktuarium i zmieniły je w cerkiew. Po odzyskaniu niepodległości do sanktuarium wrócili paulini. Po długich poszukiwaniach w roku 1926 odnaleziono obraz ukryty u ss. Benedyktynek w Łomży. Badania wykazały, że ostatni biskup katolicki Janowa — Beniamin Szymański, wielki czciciel Najświętszej Panny, przewidując popowstaniowe represje,



Інтэр’ер ляснянскай базылікі

ukrył oryginał Matki Bożej Leśniańskiej w Łomży, w bocznym ołtarzu. Biskup umarł, jedyna wtajemniczona przeorysza klasztoru także i tak byłby ślad zaginął, gdyby nie intensywne poszukiwania. W 1927 r. udała się z Siedlec niezwykła procesja, sam biskup wraz z tłumem wiernych pieszo przyniesli cudowny obraz do Leśnej. Procesja szła 3 dni, od 22 do 25 września. W uroczystości powrotu Matki Bożej brało udział około 30 tysięcy osób. Sanktuarium Leśniańskie było umiłowanym miejscem kultu dla unitów podlaskich, a Leśniańska Matka Boża ostoją ich wiary i jedności z Kościołem.

Напісана гэта даволі гладка, але ў сапраўднасці так гладка не было. Біскуп Пражмоўскі ў згаданым дэкрэце з 1700 года так быў пісаў: Mądrość Boża, choć wszystkie królestwa i państwa obsypuje darami swej dobroci i miłosierdzia, to jednak w najszczególniejszej opiece ma nasze Królestwo Polskie. (...) Nawet tę najniższą i nieszczęsną naszą diecezję Łucko-Brzeską, zarażoną tyloma herezjami, upartą schyzmą i innymi splugawioną bezbożnościami, nawiedziła Najczystsza Marya Panna i w obecnych ciężkich czasach pocieszyć nas raczyła. Uradowaliśmy się bardzo, gdyśmy po raz pierwszy usłyszeli o zjawieniu się obrazu Najświętszej Maryi Panny na kamieniu wyrażonego, a w wielkiej jasności znalezionego na gruszy lat temu siedemnaście wśród okopów we wsi Leśna, w województwie Podlaskim ziemi Mielnickiej... (...) Ponieważ Święty Kościół Katolicki (...) uznaje cuda i miejsca objawione uważa za cudowne tylko wtedy, gdy biskup właściwy (...) za takowe w sądzie swoim uzna, przeto i My, (...) powagą naszą biskupią, niniejszym dekretem, (...) aby wśród heretyckiej zarazy i uporu schizmy lud, patrząc na cuda Boże i sprowadzając je, utwierdził się w wierze i świętej miłości (...) uznajemy, przyjmujemy, zatwierdzamy i chcemy, aby wszyscy wierni obojga płci, wszelkiego stanu, godności, za takie mieli, uznali, przyjęli wszędzie i ogłaszali.

Расійскія праваслаўныя парталы бачаць гэта па-свойму: Леснинская икона отличается от многих других православных икон тем, что изображение Божией Матери с Младенцем Иисусом не написано красками на доске, а вырезано рельефом на тёмно-красном овальном камне довольно большой величины. В левой руке Божией Матери — книга, а над книгой — Дух Святый в виде голубя. Слава о чудесно явившейся иконе привлекла в Буковичи множество богомольцев, и недаром: Матерь Божия подавала больным исцеление, а несчастным и обездоленным — утешение. Католическое духовенство, желая использовать святыню для привлечения верующих в католичество, отняло икону у православных и поместило её в костёл, заново




отстроенный в Лесне орденом паулинов. Сделано это было так: ксёндзы создали комиссию, которая признала икону чудотворной и документально подтвердила, что найдена икона была леснинскими крестьянами. На этом основании, — утверждала комиссия, — икона должна находиться в селе Лесна, где существует всего один храм — католический. В 1863 году паулины скомпрометировали себя участием в польском восстании и были удалены из монастыря, а в 1875 году Леснинский костёл и икона были переданы православным. В 1885 году в Лесне была создана православная женская община, ставшая вскоре монастырём.

У адной з кніг, выдадзеных у Свята-Троіцкай Сергіевай лаўры ў 1992 годзе, наваколле Лясной 1880-х гадоў апісваецца так: Былъ въ Польше за рекой Бугомъ, у русскихъ пределовъ, край, въ силу историческихъ условій, обездоленный и, въ духовномъ отношеніи, заброшенный. Жители его жили въ большой бедности и такъ одичали, что многіе изъ нихъ даже не были крещены. (...) Заброшенная нива требовала своихъ возделателей.

Праваслаўныя манашкі, якія ў Лясную пасяліліся ў 1885 годзе, пакінулі яе ў 1915 годзе і ў бежанства падаліся не ў Расію, а спачатку ў Малдавію, а адтуль у Сербію, у Хопава, што паміж Бялградам і Новым Садам; пасля Другой сусветнай вайны перабраліся яны яшчэ далей, у Францыю. Забралі яны з сабою і каменную ікону, аб’яўленую біскупам Пражмоўскім cudowną. Гэты эпізод кляштарны партал абыходзіць бокам, згадваючы адно пра яе intensywne poszukiwania.

Пераведзеныя ў праваслаўе ўніяты ў пачатку XX стагоддзя масава прынялі каталіцтва, вярнуўся ў каталіцтва ўжо ў 1915 годзе і ляснянскі санктуарый, не было толькі галоўнай яго святыні, каменнай Ляснянскай іконы. У 1924 годзе стала там вядома, што ікона ў Югаславіі. Прыёр Ляснянскага кляштара Аляксандр Лазінскі паехаў у Хопава па cudowny абраз, але вярнуўся з нічым. І ў Лясной, і ў цэлай Сядлецкай дыяцэзіі сталі маліцца за вяртанне святыні. У Ломжы была знойдзена яе копія і цяпер стала пытанне, якая з іх сапраўдная, а якая двайнікам. У Хопава з’ездзіла спецыяльная камісія Сядлецкай дыяцэзіі, якая ў чэрвені 1927 года заключыла, што арыгінальны абраз астаўся ў Польшчы; у Лясную вярнуўся ён з раней згаданай працэсіяй...

У 1662 годзе, за дваццаць адзін год да з’яўлення каменнай іконы, у Лясной пражывала дваццаць тры душы. У царскі час, калі там быў праваслаўны жаночы манастыр, былі пры ім школы і бальніца. У манастырскім комплексе было шэсць цэркваў, якія пацярпелі ў выніку Першай сусветнай вайны і былі пасля яе знесены. Да вайны служыла ў манастыры каля паўтысячы манашак, за ўсе трыццаць гадоў кіравала імі ігумення Кацярына — графіня Яўгенія Яфімоўская, выпускніца Маскоўскага ўніверсітэта па літаратуразнаўстве. Цяпер гэтая мясцовасць мае гмінны ранг. У будзённы дзень манахаў там не відаць, толькі адзінокія вернікі заглядаюць у Базіліку меншую і суседнюю Капліцу з’яўлення.

Расійскія праваслаўныя крыніцы падаюць, што ў Ляснянскі жаночы манастыр на Тройцу і Уздзвіжанне Крыжа Гасподняга з’язджалася да трыццаці тысяч вернікаў. Магчыма, што гэта вялікае перабольшанне. Але трэба меркаваць, што ўсё ж такі збіралася іх шмат. Магчыма, што з левабярэжнага Пабужжа не было іх многа, бо праваслаўе ўсталёўвалася там даволі жорстка: у адлеглым за пяць кіламетраў ад Лясной Вітуліне шасцёра ўніятаў памерла ад пабояў за адмову прыняць праваслаўе... Магчыма, што шмат народу прыязджала з левабярэжжа, магчыма, што ў выніку нейкай моцнай агітацыі. А ў іх ліку магла быць мае продкі — Лясная толькі ж сорак кіламетраў за Грабаркай...

*(працяг будзе)*

ISSN 0546-1960